# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 39 (249) 1 — 7 кастрычніка 1996 г. КОШТ 2500 РУБЛЁЎ


## "Мода павінна жыць!"

***З госцяй рэдакцыі, дырэктарам беларускага Цэнтра Моды спадарыняй МАНУЛІК гутарыць наш карэспандэнт Навум ЦЫПІС.***

**— Бачу на вуліцах маладых людзей у "стандарце": "хлопчыкі" — шырокія, нязграбныя штаны, скураныя курткі, "дзяўчынкі" — матрацныя касцюмы, скура, спаднічкі вышэй за найвышэйшую мяжу, і — шмат шэрага, цёмнага, падношанага — гэта людзі сталага ўзросту. Дык што ж, Любоў Васілеўна, сапраўдная мода памерла?**

— Катэгарычна сцвярджаю, што мода не памерла, у тым ліку і высокая. Яна наогул ніколі не памірала. Ёй столькі гадоў, колькі самому чалавецтву. Я добра разумею сітуацыю, у якой зараз знаходзяцца нашыя людзі. Увесь цывілізаваны свет даўно вырашыў свае асноўныя праблемы — ежа, вопратка, жыллё, і "зарабіў" магчымасць вырашаць агульначалавечыя праблемы: навука, мастацтва, культура... А ў нас гранічнае жабрацтва. Бачым па тэлевізары модных "зорак", людзей, якія багата апрануты і з годнасцю бавяць свой вольны час, а ў нас у крамах — заходнія тавары, у якіх скончыўся тэрмін захоўвання, няякасныя адзенне і абутак, але заробку нават на гэта не хапае.

Але яшчэ раз з упэўненасцю магу сказаць, што мода не памерла. Яна ствараецца, яна знаходзіць сябе і на подыуме, і сярод спажыўцоў. Высокая мода застаецца генератарам новых ідэй, што сілкуюць усю лёгкую індустрыю. Мода павінна жыць, і ёй трэба ў гэтым дапамагчы. Цяжка ўявіць адраджэнне культуры без развіцця культуры адзення.

**— А ці Вы перакананыя, што большасць нашага насельніцтва жадае адраджэння культуры наогул і развіцця культуры адзення ў прыватнасці?**

— Людзі хочуць быць прыгожа і модна апранутымі. Ім бракуе, і ў гэтым не заўжды іхняя віна, выхавання, густу, інфармацыі і, безумоўна, грошай. Густ павінен быць прышчэплены ад самага нараджэння. У Францыі дзяўчынка шасці гадоў ужо ведае, якая колеравая гама падыходзіць менавіта ёй, які пах парфумы адпавядае яе гараскопу. Гэтаму навучаюць. У нас усё гэта аддадзена самой дзяўчынцы. Таму мы і бачым на вуліцах тое, што бачым: свет безгустоўнасці. Набываюць выпадковыя рэчы, парфуму, аксесуары: убачыла ў сяброўкі, у суседкі.

**— А што ім, гаротным, рабіць?**

— Галоўнае — жаданне знайсці свой вобраз. Без гэтага і з грашыма будуць праблемы, бо грошы дадуць магчымасць праявіць усю глыбіню гэтай безгустоўнасці. А вось калі чалавек пажадае, асабліва жанчына... Узгадайце разанаўскі "Службовы раман", калі кансерватыўная "дырэктарка" ператвараецца ў чароўную жанчыну менавіта таму, што знайшла свой вобраз: адзенне, абутак, фрызура, аксесуары, хада, постаць... Чалавеку дастаткова змяніць касцюм ці нават гальштук, ён імгненна мяняецца сам. Паглядзіце на жанчыну, калі яна замест чаравікаў на нізкім абцасе ўстае на "шпільку"! Не на ногі, на твар паглядзіце... Нездарма на Захадзе існуе прыслоўе: хочаш узняць настрой — набудзь абноўку!

Адзенне шматаблічнае, яно мае яскрава выказанае сэнсавае значэнне. І калі звярнуцца да спецыялістаў, якія дапамогуць вам "пабудаваць" свой гардэроб, знайсці свой стыль, — дык гэта можа стаць гарантыяй вашага поспеху ва ўсім. Я мяркую, што на гэта нельга шкадаваць ніякіх высілкаў. А дзелавым людзям без гэтага проста не абысціся.

*(Заканчэнне на стар. 6)*

НАТАТНІК ТЫДНЯ

# КАНТАКТЫ ПАШЫРАЮЦЦА



**28 верасня адбылося ўрачыстае падпісанне рабочай праграмы аб супрацоўніцтве ў галіне культуры, адукацыі, навукі і тэхнікі паміж урадамі Італьянскай Рэспублікі і Рэспублікі Беларусь з 1996 па 1999 г. Падпісаныя Міністрам культуры Рэспублікі Беларусь і Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Італьянскай Рэспублікі дакументы — яшчэ адзін крок да наладжвання плённых кантактаў паміж дзвюма дзяржавамі.**

**Уладзімір Сасноўскі, Міністр культуры Рэспублікі Беларусь:**

— Ва ўрадах краін зараз ідзе распрацоўка буйнамаштабнага дзяржаўнага пагаднення, якое мае назву "Пагадненне паміж урадам Рэспублікі Беларусь і ўрадам Італьянскай Рэспублікі аб супрацоўніцтве ў галіне культуры, адукацыі, навукі і тэхнікі". Працэдура падпісання пагаднення даволі складаная: дакумент павінен быць зацверджаны ў парламентах абедзвюх краін, а рабочая праграма дае прававую аснову для супрацоўніцтва літаральна сёння. Сярод мерапрыемстваў, якія прайшлі з удзелам Пасольства Італьянскай Рэспублікі і Міністэрства культуры Беларусі, варта вылучыць наступныя: у Мінску адбыўся рэтраспектыўны паказ італьянскіх фільмаў, у Пінску — фестываль італьянскага кіно, нашыя асобныя выканаўцы ўдзельнічалі ў фестывалях і конкурсах у Італіі, прынамсі, у святкаванні 100-годдзя сусветнага кінематографа браў удзел наш кінарэжысёр Віктар Тураў, пры падтрымцы італьянцаў у нашым Нацыянальным тэатры оперы і балета была пастаўлены спектакль "Сялянскі гонар". Трэба сказаць, што праграма па аб'ёме даволі вялікая, яна дае магчымасць не толькі глабальнага супрацоўніцтва на дзяржаўным узроўні, але і лакальнага — на ўзроўні асобных установ культуры, навукі, якія будуць заключаць пагадненні паміж сабой. У адпаведнасці з праграмай адкрываюцца новыя шляхі да вывучэння італьянскай мовы нашымі студэнтамі, дарэчы, італьянскі бок прызначыў шэраг стыпендый для студэнтаў, якія вывучаюць італьянскую мову, а наша дзяржава, таксама на парытэтных умовах, прадаставіць стыпендыі для італьянскіх студэнтаў, якія вывучаюць беларускую мову. Улічваючы, што Беларусь — маладая дзяржава, якая будуе сваю дэмакратыю і суверэнітэт, стасункі з краінай, што мае сталыя дэмакратычныя традыцыі і велізарнейшыя дасягненні ў галіне культуры, набываюць асаблівае значэнне. Хачу выказаць шчырую падзяку пану Джану Лука Берцінета за яго асабістую дзейсную ўвагу да праблем нашай нацыянальнай культуры, што вельмі спрыяе агульнай справе.

**Джан Лука Берцінета, Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Італьянскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь:**

— Я вельмі здзівіўся таму багаццю і высокаму ўзроўню развіцця беларускай культуры яшчэ чатыры гады таму, калі сюды прыехаў. На жаль, у Італіі вельмі мала ведаюць пра выдатных мастакоў і музыкантаў Беларусі, пра тых, хто стварае творчыя набыткі дзяржавы ў кантэксце еўрапейскай культуры. Гэта ўсё складала частку абстрактнага ўяўлення ў дачыненні да ўсяго Савецкага Саюза. Нават цяпер, калі я кажу, што сусветна вядомы Марк Шагал нарадзіўся і жыў на Беларусі, факт гэты многіх італьянцаў здзіўляе. Усе творчыя, навуковыя і іншыя кантакты, якія адбываліся паміж прадстаўнікамі нашых культур, дазволілі мне правесці шчаслівыя чатыры гады ў вашай краіне. У наступным годзе тры беларускія студэнты атрымаюць стыпендыі і магчымасць вучыцца ў Італіі на працягу васьмі месяцаў. Будзе праходзіць узаемаабмен паміж групамі студэнтаў і выкладчыкаў, павялічыцца аб'ём абменаў у навуковай сферы. Ёсць вялікая колькасць арганізацый і асацыяцый, якія працуюць у гэтым накірунку. У Італіі ёсць навуковыя цэнтры, якія высока ацэньваюць значэнне беларускай навукі, прынамсі Акадэміі навук Беларусі і навукова-даследчых установ. Гэтыя арганізацыі ўжо не маюць патрэбы ў нас як у пасрэдніках, аднак падпісаныя пагадненні пашыраюць нашыя магчымасці, бадай, у галоўным — ва ўзаемаўзбагачэнні духоўнымі набыткамі нашых народаў.

**Лесь ТУР**

*На здымку: Джан Лука Берцінета і Уладзімір Сасноўскі.*

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# У НЯМЕЧЧЫНУ — НА КІРМАШ

2 — 7 кастрычніка ў Франкфурце-на-Майне (Нямеччына) адбудзецца 48-ы Міжнародны кніжны кірмаш, які з'яўляецца буйным форумам кніжнікаў свету. Па запрашэнні дырэкцыі кірмашу ў ім возьме ўдзел і дэлегацыя выдаўцоў, паліграфістаў, распаўсюджвальнікаў друку Беларусі. Узначальвае дэлегацыю старшыня Дзяржкамдруку Уладзімір Бельскі.

На нацыянальным стэндзе плануецца выставіць больш за 200 кніг. У дні работы кірмашу дэлегаты правядуць шмат сустрэч і перамоў з замежнымі выдаўцамі. Так, плануецца нарада выдаўцоў краін Усходняй і Цэнтральнай Еўропы па праблемах выпуску вучэбнай літаратуры.

Дэлегаты выдавецтва "Народная асвета" возьмуць удзел у штогадовай міжнароднай сустрэчы прадстаўнікоў педагагічных выданняў, дзе будуць абмеркаваныя сумесныя праекты па падрыхтоўцы і публікацыі вучэбных матэрыялаў агульнаеўрапейскага характару.

Звычайна на такіх буйных кірмашах наладжваюцца шматлікія творчыя кантакты. На гэты раз канструктыўныя дзелавыя прапановы і вялікія спадзевы на тое, што яны будуць прыняты партнёрамі, мае выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя". Яно мае намер звязацца з энцыклапедычнымі цэнтрамі Расіі, Італіі, Германіі, Польшчы, Францыі, Балгарыі, іншых краін свету. Будуць вывучацца магчымасці кантактаў з выдавецтвамі і кнігагандлюючымі арганізацыямі па набыцці неабходнай даведачнай літаратуры, папаўненні навуковай бібліятэкі "Беларускай Энцыклапедыі" і, адпаведна, падключэння нашых выдавецтваў да міжнароднай сістэмы "Internet".

Запланаваны прэзентацыі кнігі "История Европы", выдадзенай сумесна выдавецтвамі "Вышэйшая школа" і "Просвещение" (Масква) па ліцэнзіі французскага выдавецтва "Achete" і "Кішэннага атласа анатоміі чалавека", выдадзенай па ліцэнзіі аднаго з германскіх выдавецтваў.

Перамовы з дэлегатамі Балгарыі і Славакіі будуць плённымі, калі атрымаецца сумеснае выданне унікальнага зборніка "Казкі дзяцей Беларусі". Дарэчы, падчас работы кірмашу плануецца "круглы стол" прадстаўнікоў дзіцячых выдавецтваў. Магчыма, што там будуць прысуджаны літаратурныя прэміі за лепшую кнігу на мовах славянскіх народаў.

Будзем спадзявацца, што ўсё задуманае спраўдзіцца, і наша дэлегацыя на аўтарытэтным кніжным форуме годна прадставіць дзяржаву Беларусь.

**Ірына ТУЛУПАВА**

# СВЯТОЧНЫЯ ДНІ Ў КАСТРЫЧНІКУ

У Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь адбылося пасяджэнне аргкамітэта па падрыхтоўцы і правядзенні Рэспубліканскага фестываля "Іграй, гармонік", на якім абмеркавана праграма і мастацкая атрыбутыка свята, вызначана ягоная дакладная дата.

У сувязі з тым, што на сярэдзіну кастрычніка прыпадае шэраг грамадска-палітычных мерапрыемстваў, якія будуць праходзіць у Мінску, вырашана, што фестывальныя днямі стануць 26 і 27 кастрычніка 1996 года.

**Наш кар.**

# МІКОЛА СЕЛЯШЧУК

Трагічна загінуў Мікола Селяшчук. У 49 гадоў.

Нібыта абарвалася крохкая стужка пасярэдзіне кінасеанса. І перад нашымі вачыма — святло і бялюткая чысціня, якая нагадвае пра вечнасць. Лепшыя палотны М.Селешчука нагадваюць пра тое ж.

Цяжкасць і непапраўнасць гэтай страты наўрад ці патрабуюць тлумачэнняў. У такія хвіліны хочацца перажыць жалобную падзею моўчкі, але і маўчаць немагчыма — занадта ўжо важкім быў унёсак Міколы Міхайлавіча не толькі ў наша мастацтва, але і ў сусветнае. Не выпадкова ён двойчы — у 1991 і 1993 гадах Міжнародным біяграфічным цэнтрам у Кембрыджы быў названы Чалавекам Года. Ён быў заслужаным дзеячам мастацтваў і лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі, акадэмікам жывапісу беларускай Акадэміі выяўленчага мастацтва. Але галоўнае — ён быў Мастаком і Асобай. Тэмы і сюжэты ягонага мастацтва шчыльна знітаваныя з Радзімай, яе гісторыяй, казачнай прыродай, людзьмі, сучаснымі праблемамі экалогіі зямлі і экалогіі душы, метамарфозамі чалавечых пачуццяў і надзей.

Яму былі ўласцівыя не толькі іранічнасць і гратэскавасць, але і незвычайная сардэчная шчодрасць і дабрыня. Ён пісаў свет такім, які ён ёсць — агрэсіўным і чулым, безабаронным і магутным, рацыянальным і фантастычным. І ў гэтых творах з адмысловымі назвамі ён таленавіта спалучаў у прасторы неспалучальныя ў жыцці з'явы і рэчы. Як Сталкер у Таркоўскага, М.Селяшчук вёў гледача да мэты, да сэнсу не наўпрост, а складаным, філасофскім шляхам. Шляхам спазнання, шляхам пластычных асацыяцый і метафар.



Гэта было нядоўгае, але вялікае жыццё са сваім колерам, святлом, пахам, позіркам, дзе мастацтва — форма і сэнс ягонага існавання. Са сваім, ні да чаго не падобным духоўным напружаннем.

А цяпер — нібыта адабрана, ампутавана ў нас тое, што нельга ні аднавіць, ні атрымаць, ні пазычыць.

Апошнія творы мастака называюцца "Вяртанне на Радзіму" і "Дарога дадому"... Па якіх бы краінах і кантынентах ён ні вандраваў, заўсёды сумаваў па роднай зямлі і імкнуўся хутчэй да яе вярнуцца. І вось — вярнуўся... З далёкай Італіі — у свой апошні прытулак...

Усе мы яшчэ цалкам не ў стане асэнсаваць, што нёс нам сваім жыццём і што падарыў нам Мікола Селяшчук...

Светлая яму памяць!

**Рада Беларускага Саюза мастакоў**

**Прэзідыум беларускай Акадэміі выяўленчага мастацтва**

**Рэдакцыя газеты "Культура"**

***Мінскі грамадска-асветніцкі клуб "Спадчына" сваімі намаганнямі на дабрачынныя ахвяраванні стварыў сюлюмінавы бюст Адаму Ягоравічу Багдановічу (аўтар Мікола Несцярэўскі). Помнік адліты і знаходзіцца ў Доме літаратара.***

Сябры клуба звяртаюцца да Міністэрства культуры, Мінскага аблвыканкама і Крупскага райвыканкама, Акадэміі навук РБ, Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы, Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, Саюза пісьменнікаў і Саюза мастакоў, музея Максіма Багдановіча, да выдавецтваў і грамадскіх арганізацый з прапановай стварэння ў самыя бліжэйшыя дні аргкамітэта па правядзенні юбілею Адама Ягоравіча Багдановіча — 135-х угодкаў з дня нараджэння (25.03 1862 г.) і ўстанаўлення помніка-бюста ў мястэчку Халопенічы на радзіме пісьменніка, этнографа, фалькларыста, выдатнага дзеяча культуры Беларусі і Расіі.

Хочам нагадаць, што да юбілею Адама Ягоравіча Багдановіча рыхтуецца і мэрыя г.Яраслаўля. Яна дала дазвол на ўстаноўку ў г.Яраслаўлі бронзавага бюста Адама Ягоравіча (скульптар Уладзімір Лятун) і правядзенне ў сакавіку 1997 г. у Яраслаўскім музеі-запаведніку мастацкай выставы, прысвечанай Максіму і Адаму Багдановічам з нагоды 5-х угодкаў адкрыцця музея Максіма Багдановіча ў Яраслаўлі і 135-х угодкаў з дня нараджэння Адама Ягоравіча Багдановіча.

Менскі грамадска-асветніцкі клуб "Спадчына" сумесна з музеем Максіма Багдановіча ў Яраслаўлі залажылі беларуска-расейскае культурнае таварыства, а таксама стварылі пры музеі беларускую бібліятэку.

Просім Вас аказаць пасільную падтрымку ў гэтай пачэснай справе сваімі кнігамі ці выданнямі.

*Свае падарункі вы можаце надпісаць "У дар музею Максіма Багдановіча ў г.Яраслаўлі" і накіраваць старшыні клуба "Спадчына", тэл. 235-66-08 (Анатоль Белы).*



У Пасольстве Рэспублікі Польшча адбылася прэс-канферэнцыя з рэдактарам старэйшага ў Польшчы каталіцкага культуралагічнага часопіса "Знак" прафесарам Стэфанам Вільновічам. У сустрэчы бралі ўдзел прадстаўнікі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Польскага інстытута ў Мінску, Грамадскай акадэміі нацыянальных меншасцяў, навагародскай газеты "Авэ Марыя", Праваслаўнага Брацтва Трох Віленскіх Пакутнікаў, газеты "Культура", іншых арганізацый.

Абмяркоўваліся далейшыя шляхі развіцця розных рэлігійных сістэм у свеце, аспекты экуменічнага дыялога паміж прадстаўнікамі розных канфесій, а таксама актуальныя праблемы жыцця царквы ў сучасным грамадстве. З поглядам Стэфана Вільновіча на гэтыя праблемы можна будзе пазнаёміцца ў адным з бліжэйшых нумароў нашага штотыднёвіка.

**Алесь ТУРОВІЧ**

*На здымку: Стэфан Вільновіч (крайні злева).*

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

З НАГОДЫ...

# А ЎСЁ Ж ТАКІ ЁН ВЕРЫЦЬ!

У Дзяржаўным музеі гісторы беларускай літаратуры адбылося адкрыццё выставы "А ўсё ж такі я веру", прысвечанай слыннаму сыну беларускай зямлі паэту Нілу Гілевічу.

Людзі розных узростаў і розных прафесій успрынялі гэтую падзею з радасцю, таму зала музея, дзе віншавалі паэта, была поўная. Было бачна, як хвалююцца арганізатары мерапрыемства, як хвалюецца вінoўнік свята. Але паўсюль лунаў добры настрой, дыхала і танчыла муза творчасці. Ніл Гілевіч праходжваўся па цэнтры залы і вітаўся з сябрамі і незнаёмымі людзьмі. Але нават хваляванні не маглі схаваць першых уражанняў, якія належалі літаратуры: так, я адчуў — бачу паэта. Мне ўжо не патрабаваліся словы пераканання. Высокі, падобны на скалу, з вялікімі чыстымі вачыма ён адлюстроўваў і сімвалізаваў нешта паэтычнае і недасяжнае. Чамусьці прыгадваліся словы другога паэта, больш маладога па ўзросце і творчасці, Юрыя Гуменюка, які ў сваёй апошняй кніжцы змясціў верш пра Ніла Гілевіча. Тут, мабыць, адчувалася творчая пераемнасць, пераемнасць жывога беларускага слова.

Першыя прывітанні прагучалі з вуснаў музейных супрацоўнікаў, якія адчувалі сябе адказнымі за экспазіцыю. У гэтых словах — павага да паэзіі, да мастацтва, да Творцы. Дарэчы, стварэнне выстаў, прысвечаных жыццю і творчасці сучасных беларускіх пісьменнікаў, сталі ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры добрай традыцыяй. Пачатак ёй паклала экспазіцыя "Васіль Быкаў — асоба і час". Працягам была выстава "Глыбокія плыні жыцця", якая прысвячалася жыццю і творчасці Івана Шамякіна. Сёння — адкрыццё выставы яшчэ аднаго знакамітага майстра слова. Супрацоўнікі музея выказалі шчырую ўдзячнасць Нілу Сымонавічу за яго разуменне нялёгкай музейнай справы: паэт перадаў свой уласны архіў амаль цалкам у фонды музея — падарыў яго. І вось на матэрыялах гэтага архіва сёння і зроблена экспазіцыя, прысвечаная ягонай творчасці...

Паўсюль, дзе ёсць на Беларусі бібліятэкі, можна адшукаць кнігі Ніла Гілевіча. І паўсюль мы атрымліваем у выглядзе падарунка жывыя прыгожыя радкі. Мы нібы ўдыхаем чысціню беларускага ветру, чуем цурчэнне ракі і спевы лясоў. І не толькі мы, як кажуць, звычайныя чытачы. Прыемна было даведацца, што знаўцам творчасці паэта з'яўляецца і першы намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Валерый Гедройц. "Вельмі добрая думка прыйшла да работнікаў музея і стварылася ідэя, якая сёння ўвасоблена, у чарговы раз, у выставе, прысвечанай нашым знакамітым людзям, якія працуюць і жывуць разам з намі, займаюцца творчай дзейнасцю, — сказаў ён. — Кожны з прысутных у гэтай зале, напэўна, спазнаў прыгажосць беларускай мовы, яе чароўную паэтычнасць. Дзякуючы слову прынамсі і Ніла Гілевіча мы з самага дзяцінства не развітваемся з беларускімі кнігамі. Мы слухаем песні на вершы народнага паэта Беларусі, мы з захапленнем чытаем ягоныя радкі, але мы ведаем яго і як буйнога грамадскага дзеяча. Трэба аддаць належнае гэтаму чалавеку. За такі кароткі ў мерках гісторыі час ён стварыў вялікае багацце для нашай культуры, для нацыянальнай спадчыны..."

Чамусьці пасля гэтых слоў я стаў больш уважліва прыглядацца да прысутных і ўбачыў шмат людзей, якіх ведаю здаўна — па публікацыях у газетах і часопісах, па кнігах: Барыс Пятровіч, Алесь Гібкоўскі, Леанід Дранько-Майсюк, Ірына Шаўлякова і многія іншыя.



Словы, прасякнутыя любоўю і ўдзячнасцю, пачулі прысутныя і ад віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь Радзіма Гарэцкага: "Я вельмі шаную нашага слыннага паэта. І як можна не любіць такога прыгожага чалавека, такога выдатнага прамоўцу! Яго словы пранікаюць да самага сэрца. Па ўсім свеце гучаць яго цудоўныя песні. Ніл Сымонавіч — выдатны вучоны, літаратуразнаўца, фалькларыст, перакладчык, змагар за наша нацыянальнае адраджэнне. І, канешне, за яго любоў да светлай нашай роднай мовы я схіляю нізка галаву..."

Зала падтрымала прамоўцу шчырымі воплескамі. Без сумнення, самааддадная праца Ніла Гілевіча, яго творчасць нагадвалі зараз жыццядайную аблачынку, якая нібыта хацела ўратаваць людзей ад усяго нядобрага, небяспечнага, цёмнага, аблачынку, якая праліла на душы чалавечыя светлыя словы, наталяючы імі прагу духоўнасці.

Але відаць, кожнаму літаратару прыемна пачуць словы пра сваю творчасць і ад калег літаратараў, якія, мусіць, як ніхто, адчуваюць моц слова, паэтычнасць радка, якія выяўляюць сябе пры дапамозе літар, гукаў, радкоў... Таму словы паэта Алеся Пісьмянкова былі вельмі каштоўнымі: "За 50 гадоў творчай дзейнасці Нілам Сымонавічам зроблена столькі, што гэта не проста ўражвае, выклікае захапленне, — гэта подзвіг у імя нашага народа, у імя нашай будучыні. Давайце падумаем, колькі пакладзена ў гэтую творчасць сэрца, душы, энергіі не проста паэта, а паэта-грамадзяніна..."



*Ніл Гілевіч са сваёй жонкай Нінай Іванаўнай.*

Пасля слоў Станіслава Шушкевіча, дэпутата Вярхоўнага Савета Беларусі, атмасфера з афіцыйнай ператварылася ў сяброўска-жартаўлівую:"Я відавочна адзін з нямногіх тут, хто можа звяртацца да Ніла Сымонавіча як аднакурснік, — сказаў Станіслаў Шушкевіч. — Я самы дрэнны знаўца тваёй творчасці. Але адзін твой твор я чуў і ў Кітаі, і нядаўна ў Кліўлендзе. Ведаеш, я люблю тваю публіцыстыку, люблю твае артыкулы, люблю тваю беларускасць... але вось гэты твой твор, сапраўды беларускі, я ведаю напамяць: "А я лягу-прылягу"...



Пасля сяброўскага жарту ў зале — усе відавочна ўспомнілі гэтую вясёлую песню — свае віншаванні з нагоды адкрыцця выставы выказаў паэт Сяргей Законнікаў: "Ніл Сымонавіч, у вас не толькі шчырае, мудрае сэрца... Сэрца ваша прадчувае тое, што будзе наперадзе: вы заўсёды думаеце пра будучыню, вы заўсёды думаеце пра моладзь..."

І нарэшце пасля шматлікіх выступаў, калі здавалася, што па зале прайшлі моцныя хвалі ўдзячнасці, да прысутных звярнуўся сам паэт:"Дарагія сябры, сябры беларускай паэзіі, роднага слова нашага. Гэтыя хвіліны ў маім жыцці вельмі незвычайныя, і я буду хвалявацца, хвалявацца нават больш, чым я думаў. Што б я хацеў у адказ на ўсе вашыя словы сказаць? Чым чалавек больш жыве, у яго ўсё менш застаецца права абяцаць, абнадзейваць і сябе і іншых. А ўсё больш права і абавязку дзякаваць. Таму маё слова будзе словам удзячнасці. Паколькі я на адкрыцці такой незвычайнай, яшчэ зусім нядаўна нечаканай для мяне выставы, я, канечне, у першую чаргу, хачу падзякаваць тым, хто прыклаў душу і сэрца да гэтай экспазіцыі. Гэта не мая была ініцыятыва — я спадзяюся, вы мне паверыце — наладзіць выставу, дзе адлюстраваны 50 гадоў жыцця ў літаратуры. І не толькі ў літаратуры..."

Я падаў у гэтым рэпартажы не усе словы, якія гучалі на адкрыцці выставы, і не таму, што яны не мелі каштоўнасці. Мне падалося, што ўсе сёння словы матэрыялізаваліся ў самой экспазіцыі — з такой любоўю яна афармлена для паказу людзям. Застаецца дадаць, што ўдзячныя прыхільнікі паэзіі падарылі Нілу Сымонавічу агромністы пірог,"страусавае яйка" і вялікі кош з журавінамі для здароўя, натхнення і доўгіх гадоў творчага жыцця.

...Была разрэзана вялікая чырвоная стужка і людзі зрабілі крок у святая-святых — у творчую лабараторыю пісьменніка.

**Зміцер ВОЛКАЎ**



20-21 верасня адбыліся кароткатэрміновы візіт прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Міхаіла Чыгіра ў Рэспубліку Польшча і прэм'ер-міністра Рэспублікі Польшча Уладзімежа Цімашэвіча на Беларусь.

Главы ўрадаў Беларусі і Польшчы наведалі школу з беларускай мовай навучання ў горадзе Клешчэле Беластоцкага ваяводства, азнаёміліся з ходам будаўніцтва памежнага пераходу Баброўнікі, узялі ўдзел у адкрыцці першай на Беларусі польскай школы ў Гродне.

У Гродзенскім аблвыканкаме адбыліся перамовы паміж главамі ўрадаў Беларусі і Польшчы.

*На здымках: Міхаіл Чыгір робіць запіс у кнізе ганаровых гасцей школы; падчас адкрыцця польскай школы ў Гродне.*

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.**



СПАДЧЫНА

## УСЁ МІНУЕ, А ПРАЎДА ЗАСТАНЕЦЦА...

У сталічным кінатэатры "Кастрычнік" адбыўся паказ кінастужкі "Птушкі без гнёздаў". Як пракаментавалі на айчынным тэлебачанні ў "ТСН", прагляд спецыяльна не прыстасоўвалі да дня народзін славутай беларускай паэткі Ларысы Геніюш. Але менавіта супадзенне гэтых падзей можна назваць прыемным. Як і тое, што кінематаграфісты Беларусі праявілі тактоўнасць і нежаданне прыстасоўвацца да розных палітычных кан'юнктур у пытаннях, звязаных з увасабленнем у мастацтве драматычнага лёсу цудоўнай жанчыны.

Першымі да асобы Ларысы Геніюш звярнуліся дакументалісты. У 1992 годзе ў ПТВ "Летапіс" была зроблена кінастужка "Вянок цярновы васількоў" (рэжысёр — Станіслаў Гайдук, сцэнарыст — Рыгор Барадулін).

Праз некалькі гадоў на экраны выйшла стужка рэжысёра Віталя Дудзіна "Птушкі без гнёздаў". Спачатку назва фільма была "Я памятаю", стужка і выстройвалася як успамін паэтэсы пра падзеі ў асабістым жыцці, якія былі шчыльна звязаны з сацыяльнымі абставінамі. Работа над сённяшнім кінаварыянтам пачыналася з задумы пра шматсерыйны тэлевізійны фільм, бо жыцця адной гераіні хапіла б не на адзін дзесятак серый... Але фінансавыя цяжкасці і складанасці іншага кшталту, калі на стваральнікаў стужкі (аўтар сцэнарыя — Я.Грыгор'еў, аператар — П.Крывастаненка, мастак — У.Дзяменцьеў) "давілі" і "іншыя сілы", не далі ажыццявіць першапачатковы варыянт.

"Птушкі без гнёздаў" паказваюць некалькі дзесяцігоддзяў з жыцця Ларысы Геніюш. І менавіта гэтыя дзесяцігоддзі выклікаюць неадназначныя адносіны ў ворагаў паэткі: 1935 год, ад'езд у Прагу да мужа, жыццё ў Чахаславакіі ў гады нямецкай акупацыі, яе знаёмства з савецкімі салдатамі ў вызваленай Празе, потым арышт у 1948 годзе і допыты ў мінскай турме...

"Культура" неаднойчы ўжо звярталася да аналізу мастацкіх якасцей фільма. Але зараз неабходна зазначыць, што галоўная трактоўка рэальных падзей жыцця Геніюш была зроблена аўтарамі стужкі не пад ціскам, а зыходзячы з праўды жыцця. Яны паверылі самой Ларысе Геніюш, яе "Споведзі". І ў дадзеным выпадку можна гаварыць аб мастацкай інтуіцыі.

"Птушкі без гнёздаў" — першая спроба кінематаграфістаў сродкамі мастацкага кіно праўдзіва расказаць народу пра яго незвычайную паэтэсу, жанчыну, якая валодала і талентам, і прыгажосцю, і незвычайна моцным духам...

**Г.Ш.**

# "Я ПРЫВЫКЛА ДА БОЛЮ"...

***Нядаўна мы адзначылі гадавыя жальбіны па смерці народнага паэта Беларусі Максіма Танка, уклад якога ў нацыянальную літаратуру прызнаны агульнанародна і засведчаны многімі ганаровымі тытуламі, званнямі і прэміямі. За доўгія дзесяцігоддзі актыўнага "жыцця ў паэзіі" ён пакінуў багатую і шматстайную мастацка-творчую спадчыну, заснаваў цэлую літаратурную школу, лепшыя традыцыі якой будуць развіваць многія пакаленні беларускіх пісьменнікаў. Ліст Ларысы Геніюш да Максіма Танка, які прапануецца ўвазе чытачоў, колькі часу таму выяўлены мною ў сямейным архіве народнага паэта. Мяркую, ён зацікавіць не толькі літаратараў, але і гісторыкаў, іншых даследчыкаў.***

**Мікола МІКУЛІЧ**



*Народныя пісьменнікі Янка Брыль і Максім Танк.*

Максім Танк!

Толькі ўчора А.Н.Карпюк расказаў мне аб усім, што ў апошні час робіцца ў БСП вакол майго імя і кніжкі. Я балюча і трагічна зразумела насамперш адно: якую Вы і іншыя людзі, якія стараліся мне дапамагчы, маюць незаслужаную непрыемнасць з гэтай прычыны. Абедзве кніжкі мае няхай гавораць самі за сябе, я закрану падзеі. Аднойчы я ўжо ў СБП аб гэтым пісала, але гэтая вялікая юстычная несправядлівасць свядома і здзекліва зноў закранула балючае і незажыўшае. Мне сказалі, што адпаведныя органы паказваюць маладым беларускім пісьменнікам "дакумент" аб падпісанні пражскімі беларусамі тэксту тэлеграмы Гітлеру ў сувязі з нападам апошняга на САВЕЦКІ САЮЗ. Вось як на следстве, так і цяпер кажу, што гэта НЯПРАЎДА!!! Ніхто, паўтараю, ніхто са змушаных прыйсці ў той дзень на сход Бел. кам. самапомачы ў Празе падобнай тэлеграмы ці пастановы не падпісаў! Уся гэта справа выглядала б гратэскна, каб не трагічнае становішча тых дзён і тэндэнцыйна несправядлівы падыход да яе следчых сталінскай эры. У канцы 1937 г. я на польскі пашпарт (такі ж меў і мой муж) з вялікімі цяжкасцямі і перашкодамі выехала ў Прагу. Пасля знішчэння польскай дзяржавы мы аўтаматычна засталіся без грамадзянства. Усе такія людзі, як наогул людзі іншых нацыянальнасцяў у Чэхіі, яўрэямі пачынаючы, мусілі, паводле загаду немцаў, арганізавацца ў адпаведных, дазволеных уладамі ўстановах. Гэты загад і ўстановы былі нават пададзены чэшскай прэсай. Для беларусаў гэта быў Бел. кам. самапомачы, які заснаваў і пастараўся ўзначальваць Ян Ермачэнка. Сярод членаў камітэта была і захавалася да канца вайны яўрэйская сям'я Вольфсанаў (бацька, сын, дачка). Камітэт асаблівай дзейнасці не праводзіў, а нейкай палітычнай дзейнасці не праводзіў зусім, не да таго было людзям. А аднойчы, у дзень нападу фашызму на Савецкі Саюз, у дзень трывогі, неспакою ды адчувальнага проста тэрору Ермачэнка асабіста і грозна аб'ехаў усіх беларусаў са строгім загадам сабрацца ўсім назаўтра а такой і такой гадзіне ў яго на кватэры. Дарэчы, там, з яго "ласкі", той камітэт і памяшчаўся. Не паслухаць загаду было ў той час амаль раўназначна лагеру. Прыйшлі ўсе. Не было толькі майго мужа, які ... (неразб.), спакойна замяшчаў спецыяліста скур. вен. хваробаў доктара Віцэслава Градзіла, стараючыся не пападацца немцам на вочы. Сход пачаўся трывожна і дзіўна. Ермачэнка, які заўсёды быў старшынёю сходаў, на гэты раз аб'явіў: "Старшыня арганізацыі не можа быць старшынёй сходу!" Ён пачаў прапаноўваць іншых і мяне ў тым ліку, усе чамусьці адмаўляліся, В.Захаркам пачынаючы. Настрой рабіўся трывожна-напружаным. У гэты час увайшоў мой муж, якому Ермачэнка тэлефанаваў на працу, каб ён з'явіўся. Не паспеў той увайсці ў хату і адумацца, як прызначылі яго, першы і апошні раз у жыцці, старшынёй сходу гэтага камітэта... Усе чакалі. Ермачэнка знік у раскошы пакояў, адкуль прынёс гатовае пасланне таму клятаму фюрэру, якое і зачытаў прысутным! Сябры замоўклі, але пасля пачалі даводзіць, што камітэт гэты — арганізацыя апалітычная (хто ж тады славянам нейкую "палітыку дазваляў"?). І таму не мае права на падобныя тэлеграмы. Ермачэнка лоўка вывернуўся, кажучы: ну, тады гэта будзе ад бел. калоніі ў Празе. Сказаць, што мы супраць, гэта было б роўным чынам ісці ў Асвенцым. Гэтая камедыя не была таго варта! Але пратаколу сходу гэтага падпісаць з нас ніхто не мог і ніхто не падпісаў!!! Клятую тую тэлеграму падаў назаўтра сам не меней кляты Ермачэнка, паставіўшы пад яе імя, якое яму найбольш спадабалася, імя "старшыні сходу"... Сталася правакацыя. Я хацела спачатку сабраць подпісы пад сапраўдным пратаколам гэтага свінства, але пачыналася вайна, ды людзям ці ўсім паверыш? Так і засталося. Я вельмі горача займалася паэзіяй зусім не для Рэйху, а для падтрымкі сваіх землякоў і іх вернасці сабе і Радзіме. Хто думаў, што гэты няшчасны фарс з тэлеграмай воляй нядобрых людзей прарасце ў такую агіду... Тут мне сорамна, але не за сябе... У тым жа "камітэце" быў маленькі архіў камітэту, і вось аднойчы той архіў згінуў. Ну, згінуў ды згінуў, ды пры тым у яго хаце. Але якое было маё здзіўленне, калі ў 1948 г. мне ў мінскай страшнай круглай турме паказалі яго мае, ліхой памяці, следчыя.



*Магіла Ларысы і Янкі Геніюшаў.*

А яшчэ болей я здзівілася, калі ў пратаколе, якога ніхто з нас не падпісаў, я ўбачыла ўсе, гуськом напісаныя нашыя "подпісы", акуратна пераведзеныя следчым пад капіроўку на тым, нікім не падпісаным пратаколе... Гэта была недзе тая паперка, якую паказвалі беднай Веры Вярбе, з чаго тое дзіця магло і зрабіць свае такія дзіўныя ды ненармальныя вывады. Прозвішчы, як я зарыентавалася, былі ўзяты з нашых анкетаў... Гэта быў момант у маім жыцці, калі я пажадала ісці лепш на ўсе мучэнні, каб ніколі ў будучым не нясці нават найменшай маральнай адказнасці за падобную "справядлівасць"... Вось каму і навошта аказалася патрэбнай гэта т.зв. "тэлеграма" — пустая шушамець барабанных, адпаведных да якасці ненармальнага фюрэра, слоў, аб якой іначай нават сабака нідзе не загаўкаў?.. Я зненавідзела людзей, якія велікадушнасць, дыпламатыю і розум пераможцаў замянілі новым тэрорам і сваімі няпраўдамі. Я толькі пытаю сябе: за што палеглі мае маладзенькія браты з кляймом "кулакоў", а сэрцам патрыётаў? Я добра ведаю, што прычынай майго знявалення была мая першая кніжка, як і прычынаю вось гэтай камедыі з'яўляецца кніжка другая.

О, харошы Максім Танк, я ж так не хацела зноў друкавацца... Нічога, я прывыкла да болю, але за што такая напасць на Вас? Ні яўрэй Вольфсан, ні маэстра Забэйда, ні стары камуніст Жук, ні мастак Салавей і інш., ніхто з сумленных людзей Вам іначай аб гэтай справе не скажа. Усе яны ў Празе і ніводзін з іх за гэтую дурніцу не пацярпеў, як не пацярпелі і тыя тысячы рабочых, якіх страх гнаў на мітынгі, бо з шалёным няма жартаў! У Празе быў загад даць аднаразова на нямецкі чырвоны крыж забылася якую частку зарплаты. Мы далі смешна, як для лекара, малую частку, мо жабрак не наважыўся даць меншай, нас і за гэта судзілі, нават не пацікавіліся запытацца чэхаў, як у той час з гэтым было?

Яшчэ раз кажу, ніхто з нас гэтага не падпісваў, але думаю сабе, хто з нармальна думаючых людзей мог бы судзіць нас за тое, калі б нас змусілі гэта зрабіць? На лёгкую вагу нехта кладзе людское жыццё, калі шкадуе, што людзі не папаўнялі гэкатомбаў Гітлеру дзеля жэстаў!!! І так: ніхто тае тэлеграмы не падпісваў і пасылаў яе сам Ермачэнка, падпісваючы яе так, як некаму было выгадна, з разлікам на далейшую смуту і бясконцае знішчэнне маральна і фізічна няшчасных людзей няшчаснага Краю...

**З пашанай да Вас заўсёды Ларыса Геніюш**

*Зэльва, 4.V. 68 г.*

**P.S.** Следчы мой, нехта Коган, казаў, смеючыся, што вялікую суму атрымаў Ермачэнка за гэтую тэлеграму; ад каго — не сказаў...

**Л.Г.**

**Публікацыя Міколы МІКУЛІЧА**

## СТРАТА...

# АДБІТАК ЛЁСУ НА ЦЫНКАВАЙ ПЛАСЦІНЕ

***... І вось настаў момант, калі пасля прозвішча мастака стаяць дзве даты, падзеленыя кароткай рысай. І мастак ужо не належыць самому сабе. Усё, што ён здзейсніў у жыцці, ягоныя творы адкрываюцца наноў, з надзвычайнай глыбінёй, узвышана і чыста. І вось дзве даты: 1941 — 1996. Гэта гады жыцця Леаніда Марчанкі. Вось адзін з ягоных апошніх партрэтаў: злёгку ўсмешлівы, троху стомлены, у вязаным світэры сядзіць ён за сталом з раскладзенымі на ім аркушамі афортаў. І ў ягоных руках — афорт, таксама адзін з апошніх. Пазіруе перад аб'ектывам фотаапарата Марыі Жылінскай. Гэта майстэрня. Ягоны другі дом. А можа, першы? Як паглядзець...***

Калісьці, падчас наведвання гэтай майстэрні, я расказаў Лёні такую гісторыю. У Рэнуара неяк папыталіся: "Мэтр, што больш важнае ў мастацтве — ШТО або ЯК?" "Важней за ўсё ХТО", — адказаў мастак. Лёні спадабаўся адказ вялікага француза, і ён доўга паціраў ад задавальнення рукі.

Творчасць Марчанкі — таксама шмат у чым працяг ягонай асобы, не простае яе адлюстраванне, а ўвасабленне ўсвядомленага прынцыпу паводзінаў. Ён страсна любіў вандраваць па далёкіх паралелях і мерыдыянах тагачаснага Савецкага Саюза, любіў назіраць за жыццём і побытам розных людзей, незалежна ад іх нацыянальнасці і прафесіі. Любіў сваю Айчыну — Беларусь і родную Бабруйшчыну, захапляўся Мінскам, Нарачанскім краем і Лепельшчынай, з натхненнем пісаў Бярэзіну і Глубельку, Паставы і Смаргонь, азёры Белае і Свір.

І, нарэшце, паводле аповедаў ягонай жонкі Ніны Паўлаўны, якая амаль трыццаць пяць гадоў была ягонай Музай і анёлам-ахоўнікам, Леаніду і ў побыце былі ўласцівыя асаблівая пластыка ладу жыцця і незвычайная надзейнасць ва ўсім, што ён рабіў. Ён сам друкаваў свае афорты, пастаянна ўдыхаючы пахі азотнай кіслаты альбо хлорнага жалеза, па-майстэрску прыстасоўваючы адзін да аднаго вугалкі рамачак, сам іх таніраваў, гэтыя рамы, даводзячы колер таніроўкі да дасканалай кандыцыі; сам выразаў шкло і паспарту.

Рукі ў яго былі залатыя, хаця нярэдка прыходзіў дадому з абадранымі пальцамі ад працы на металаграфічным станку. Але самае галоўнае, безумоўна, — творчы пачатак, талент. Ні побыт, ні грамадскія абавязкі, ні тужлівыя тыдні, знітаваныя ў розныя перыяды жыцця са смерцю бацькі або старэйшага брата, мамы або сястры, не здолелі заглушыць у ім пастаянную прагу да творчасці. Яму ўвесь час здавалася, што працуе мала, хаця цэлыя дні праводзіў у майстэрні. Нерваваўся, калі яму заміналі, нават родныя. Хваляваўся, што не паспее скончыць працу да той альбо іншай выставы...

Было ў ім штосьці юначае, бо толькі юнакі самым сур'ёзным чынам занятыя формай, эстэтыкай сваіх паводзінаў. Сталеючы, усе мы пачынаем ставіцца да яе абыякава, толькі выконваючы ўжо вывучаныя ролі. Магчыма, гэта асаблівая "мастацкасць" дасталася Леаніду ў спадчыну ад бацькоў, простых і добрых людзей са Жлобіншчыны. Мабыць, ад першага свайго любімага настаўніка малявання ў Бабруйскай дзіцячай студыі Бяляева, які, разгледзеўшы ў хлопчыка дар мастака, угаварыў яго ехаць на вучобу ў Пензу, у знакамітую мастацкую вучэльню імя К.Савіцкага. Хіба не дзіва: у карціннай галерэі вучэльні віселі арыгіналы самога Рэпіна і Левітана, Бялыніцкага-Бірулі, не кажучы ўжо пра палотны буйнога мастака, нядаўняга дырэктара вучэльні І.Гарушкіна-Саракапудава! А Бялыніцкі-Біруля з тае пары стаў для Лёні любімым мастаком.

Так, пяць гадоў, дзень у дзень, прыходзіў сюды Лёня, з задавальненнем наведваў цудоўна абсталяваныя майстэрні, маляваў, потым — пленэр, эцюды. Тут, у Пензе, пазнаёміўся і з будучай жонкай Нінай...

На гэтым скончыўся вучнёўскі перыяд і пачалася пара самастойнага ўваходжання ў жыццё і ў мастацтва. Пачалася гэтая пара з выкладання малявання ў адной са школ Чалябінскай вобласці. А потым Мінск, аддзяленне графікі тэатральна-мастацкага інстытута. Месяцы тры ўсё ішло добра, але раптам — выклік у ваенкамат. Аказалася, што Савецкая Армія без студэнта Марчанкі ніяк абысціся не зможа, дык, калі ласка, — "пад ружжо". І толькі праз тры гады гвардзеец-артылерыст змог працягнуць вучобу.

Настаўнікі ў Леаніда былі добрыя — Павел Любамудраў і Арлен Кашкурэвіч, якія вучылі яго не столькі непасрэдна тэхніцы малявання, колькі ўменню мысліць пластычнымі вобразамі, прасторай, лініямі. І ў той жа час шлях Марчанкі ў мастацтве быў шмат у чым шляхам вызвалення ад забабонаў акадэмічнага рамяства, прафесійнай руціны, строгай сацыяльнай накіраванасці.

Ён маляваў усё, напаўняючы сваю душу новымі ўражаннямі і "набіваючы" прафесійную руку: ад беларускіх ударных новабудоўляў да велічнамяккіх вобразаў жанчын Палесся, ад БАМа да старых караблёў Карскага мора, ад суровай і манументальнай прыроды Запаляр'я да туркменскай экзотыкі, ад летняй прахалоды Залацінкі да няўрымслівых рытмаў Мінска, ад енісейскіх парогаў да маляўнічых нарачанскіх берагоў.

Аналізуючы тагачасную творчасць Марчанкі, Георгій Паплаўскі вызначыў у мастаку "прыродны дар і мэтанакіраванасць у вырашэнні складаных творчых задач", "паэзію, пяшчоту і эстэтычную выразнасць графікі", а Арлен Кашкурэвіч падкрэсліваў, што "Марчанка выдатна адчувае мяккасць і серабрыстасць літаграфіі, жорсткасць і пэўнасць лінагравюры, цякучасць і рознакаляровасць акварэлей, поўных паветра і святла". Менавіта ўсе гэтыя якасці Леанід даводзіў да дасканаласці ўсё жыццё, хаця светланосны афорт у рэшце рэшт стаўся ягонай улюбёнай тэхнікай.



Леанід Марчанка.

... У ягонай майстэрні я бываў не часта, але добра памятаю многія ягоныя творы — і тыя, што выстаўляліся і былі задуманы ў творчых паездках, і тыя, што не паспявалі набыць "выставачны" выгляд, і "крэмзалкі", гэта значыць, натурныя малюнкі і накіды, якія часам былі не менш цікавыя за гатовыя кампазіцыі. І яшчэ памятаю, як мы сціпла "абмывалі" ягоны афорт "Лета" з серыі "Мінск", які набыла Траццякоўская галерэя, і як, таксама "сціпла", адзначылі дзве ягоныя прэміі за бліскучыя афорты, што экспанаваліся на VI Усесаюзнай выставе эстампа і І Усесаюзнай выставе станковай графікі. А колькі было іншых сустрэч — у Саюзе мастакоў, на вернісажах і творчых секцыях і проста на вуліцах Мінска, які ён бясконца любіў...

Памятаю, аднойчы, вярнуўшыся з творчай паездкі па Паўночным моры на караблі-сухагрузе "Пётр Вялікі", Лёня з мяккай усмешкай у сваіх густых вусах распавёў мне пра адзін цікавы эпізод. Ягоны калега па групе, убачыўшы, што Лёня малюе "шмат неба", здзівіўся: "Што, табе беларускага неба не хапае? Неба ж паўсюль аднолькавае..." Аказваецца, што гэта далёка не так. Неба на Поўначы зусім іншае. Там жа полюс, і ўсе воблакі імкнуцца да яго, нібыта іх магнітам прыцягвае. Адсюль і незвычайныя, казачныя абрысы і формы воблакаў. Вось гэтую асаблівасць і хацеў "славіць" Марчанка. Да таго ж Поўнач мае, распавядаў мастак, свой асаблівы, суровы характар, не падобны да іншых рэгіёнаў свету, — паветра найчысцейшае, мора маўклівае, вечная цішыня, таямнічая, прыцягальная прыгажосць. А ў нас на Беларусі неба іншае: больш добрае, маляўнічае, мяккае, чалавечнае...

Так, сапраўды, усхваляваць Леаніда магло толькі тое, што яго закранула, што прайшло праз ягонае сэрца, што ён ведаў і любіў. Людзі і зямля, яе дары, вялікая боская прырода — вось кола ягоных тэм, на першы погляд, простых і вельмі даступных. Але гэтыя простыя, падрабязныя, рэальныя рэчы на самой справе ў Марчанкі пабудаваныя складана і тонка. А простымі для ўспрыняцця іх робяць дакладнасць прastorавых узаемаадносінаў і яснасць кампазіцыі, менавіта тое, што ён узяў у Георгія Паплаўскага, свайго духоўнага настаўніка ў творчасці і сябра.

Скажам, пры ўсёй празрыстай і светлай элегічнасці сямі маленькіх афортаў, што абагульнілі нейкім чынам пошукі апошніх гадоў у галіне пейзажнага ландшафту, я бачу ў іх і ноткі суму, хвалюючае і трывожнае адчуванне хуткаплыннасці быцця. Нібыта за ўсімі гэтымі прасторамі святла і паветра, дзе схаваліся цэркаўка ў глыбіні над дахамі дамоў і садамі, дзе ажурныя рытмы дрэваў на ўзгорках пад трывожным небам, дзе бясконцыя казачныя вяршаліны таполяў, што абкружылі шчыльным колам блакітнае возера, — схавалася незвычайна дзіўная цішыня. Цішыня самоты, суму, развітання. Цішыня вечнасці...



Л.Марчанка. "Сосны".

Ніна Паўлаўна мне сказала, што ўсе думкі Лёні падчас ягонай доўгай хваробы імкнуліся да творчасці і нібыта былі скіраваныя да сінтэзу, а сінтэз у ягоным разуменні — гэта інтуітыўнае, цэласнае, паэтычнае ўяўленне пра свет, задачай якога з'яўляецца прымірэнне чалавека з Вечнасцю. І гэта справядліва. Бо толькі ў гэтай сусветнай формуле, відавочна, можна шукаць Ісціну.



Л.Марчанка. "Возера Чаросава". З цыкла "Зямля і людзі".

А ісціна была для Марчанкі ў тым, каб людзі былі больш добрымі і не разбуралі прыроду; каб былі беражліва аднаўлены нашыя зняважаныя вечныя духоўныя каштоўнасці — старажытныя помнікі архітэктуры, саборы, замкі; каб свет, у якім мы жывём, стаў больш чыстым, больш светлым і разумным; каб Хараство панавала над Агіднасцю, а Дабро перамагло Зло.

Я напісаў гэтыя словы і ўзгадаў ягоныя малюнкі і акварэлі, незразумелым чынам знітаваныя менавіта з мастацкім аналізам, на першы погляд, найпрасцейшых, як рака, жыццёвых з'яў. Бо што такое малюнкі Марчанкі? Гэта нібыта выхапленыя вокам фрагменты прыроды. Але майстэрская лепка штрыхом, іншы раз сумная і шчыльная, іншы раз празрыстая, стварае адчуванне чаканнай завершанасці форм.

Неяк Лёня сказаў мне, што для яго малюнак — гэта ёсць "развага з алоўкам у руках". Не ведаю, ці сам ён вынайшаў гэтую формулу або прачытаў дзесьці, але ён сапраўды любіў графітны аловак за пяшчотнасць і пругкасць, аксамітнасць і жорсткасць лініі, за празрыстасць і густату штрыха. І ўзгадваю, узгадваю ягоныя алоўвачныя выявы першасных азёр і светлага поўдня, тонкіх сасонак і магутных дубоў Свіцязі, возера ў Падсвіллі і раўбіцкі матыў...

А ягоныя акварэлі? У адным з кабінетаў рэзідэнцыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь я нядаўна ўбачыў акварэль "Бэз": светлая, прыгожая, вольная песня пра цудоўны жывы свет, які нас акаляе. Такі бэз мог бы, мяркую, ухваліць і стары Канчалоўскі: ён жа дасведчаны ў такіх справах.

Пастаяў я ля твора Марчанкі і ўзгадаў: дык Лёня калісьці пачынаў з жывапісу, з акварэлі! Узгадаў, як гадоў трыццаць таму ён нават выстаўляўся ў Маскве з жывапіснымі пейзажамі "Моцны мароз" і, здаецца, "Сонечны дзень". А потым былі акварэльныя эксперыменты — "Вечар", "Грыбы", "Ружы", яшчэ акварэльны партрэт сясцёр...

А ў апошнія гады жыцця, мабыць, нешта прачнулася ў душы мастака, штосьці выбухнула, нібыта прадчуваючы, што часу засталося мала, зноў няўрымсліва кінуўся ў неспакойны і бурлівы свет вадзяных фарбаў. І знайшоў у сабе новыя незвычайныя якасці чулага жывапісца-акварэліста.

"Дажыць да глыбокай старасці з пэндзлем у руках", — сказаў адзін слынны мастак. Гэтаксама мог бы сказаць і Марчанка. Мог бы, але не сказаў — жыццё ягонае абарвалася ў 55 гадоў, у час найвышэйшага творчага ўзлёту. Ягоны мастакоўскі дар, здавалася, быў разлічаны надоўга, але ці магчыма прадвызначыць Лёс?

Засталіся няскончаныя творы. Засталіся цынкавыя пласціны з прадрапанымі стальной іголкай сюжэтамі, прысвечанымі 10-годдзю Чарнобыльскай сусветнай бяды. І няўтульна зрабілася ў майстэрні без клапатлівага і добрага гаспадара.

Але пройдуць дні, тыдні, месяцы, і мы, безумоўна ж, убачым і выставу твораў мастака, і дачакаемся выхаду ў свет альбома пра ягонае жыццё і творчасць, і лецішча з майстэрняй, пабудаванае Леанідам каля Мінска, у якое мастак нават не паспеў перавезці свой любімы афортны станок, напоўніцца творчай цеплынёй ягонай кроўнай пераемніцы ў мастацтве — дачкі Наташы...

**Барыс КРЭПАК**



Л.Марчанка. "Цішыня".

БІЗНЕС І КУЛЬТУРА

# “МОДА ПАВІННА ЖЫЦЬ!”

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)

**— Хто дапаможа яго знайсці, мой вобраз?**

— Толькі Цэнтр Моды. У гэтым ягонае прызначэнне. Такой школы, як у нас на Беларусі, сёння нідзе няма. І ў былым Савецкім Саюзе засталіся адзінкі: Масква і Новасібірск. З людзьмі ў гэтым напрамку трэба працаваць. І рабіць гэта трэба шырэй і не шкадуючы грошай: акупіцца, і не толькі характвом, настроем, энергіяй, — акупіцца грашыма. Прыгажосць павінна быць рэнтабельнай, выгаднай, прыбытковай.

**— Захаваць бы душу і самое жыццё, а Вы пра культуру адзення...**

— Нас заўсёды выхоўвалі ў разуменні таго, што аблічча — другаснае, галоўнае — духоўнасць, пад якой мелася на ўвазе ідэалагізаванасць. Чалавек — гэта складаная і цудоўная гармонія, у якую ўваходзіць і такое немалаважнае паняцце, як вопратка.

**— Мы з Вамі будзем разважаць пра высокія і цудоўныя рэчы — я ўжо адчуваю сябе іншым чалавекам, нават не змяніўшы касцюма, — а нядаўна на ганку хлебнай крамкі інтэлігентная, сталая жанчына ў старой, але чыстай вопратцы папрасіла мяне купіць ёй батон. Як спалучыць з гэтым высокую моду і нават проста моду з усімі яе аксесуарамі?**

— Вядомыя ў свеце мадэльеры лічаць, што мода — гэта дарага, гэта — для выбраных. У мяне іншая пазіцыя. Моднае адзенне бывае вельмі дарагое — haute couture — і бывае для нас з вамі — prêt à porter, даступнае сярэдняму класу. Індустрыя адзення ў самых развітых краінах будуецца на патрэбах менавіта гэтай часткі насельніцтва. Але і гэтае адзенне павінна быць першакласным, індывідуальным, а з дапамогай тых самых аксесуараў, пра якія вы казалі ў такім непаважным тоне, яно можа стаць і разнастайным. І атрымоўваецца, што можна без асаблівых выдаткаў і звышвысілкаў захаваць стыль. Было б жаданне і прафесіяналы, якія табе ў гэтым дапамогуць.

І зноў мы прыйшлі да таго, што Цэнтр Моды павінен развівацца. Мода павінна быць даступнай шырокім масам. У гэтым, як ні парадаксальна, прызначэнне мадэльераў.

Што ж да нашых людзей... Я таксама была сведкай невясёлай сцэны на Неўскім бульвары. Старая жанчына прапаноўвала набыць кубак мінулага стагоддзя з сервіза нейкага рускага князя. Я разумею, што гэты чалавек не можа прасіць міласціну. Яна не прыніжалася, прадаючы фамільны кубак, каб набыць гэты ж батон. Гэта сцэна зрабіла на мяне жудаснае ўражанне. Я ўбачыла бездань.

Безумоўна, такое зараз ужо не адзінкавая з'ява, і гэта не можа мяне не турбаваць як грамадзянку. Нездарма кажуць, што ўзровень цывілізаванасці "правяраецца" стаўленнем да старых і дзяцей. У нас сёння, на жаль, няма іншага выйсця: гэта трэба перажыць. І задача не ў тым, каб ужо заўтра гэтага не было. Жыццё, на жаль, не казка, ні ў кога няма чароўнага кійка. Але зрабіць так, каб "пераходны" перыяд быў як мага больш кароткім, — гэта задача рэальная і яе можна вырашыць. У кожнай краіне ёсць жабракі, але пра іх клапоціцца дзяржава. Гэтым людзям, безумоўна, не да моды, ім трэба пратрымацца. Але, разумеючы гэтых гаротных і спачуваючы ім, я хачу сказаць, што жыццё не можа спыніцца, і яно толькі тады застаецца жыццём, калі ёсць развіццё. Гэта тычыцца і моды. Магчыма, яе "наяўнасць" сёння — гэта адна з умоў таго, што заўтра жабрацтва будзе меней.

**— У нас наладзілася добрая, праблемная гутарка пра моду і пра жыццё. Калі згодны, давайце пагаворым пра справы канкрэтныя. Клопаты Цэнтра, ягоныя радасці, магчыма, некалькі лічбаў... Якое інтэрв'ю сёння абыходзіцца без лічбаў? Скажам, такое пытанне: як ставяцца да Вашай установы людзі, ад якіх Вы залежыце?**

— Мы знаходзім з імі ўзаемаразуменне. Калі нас не зразумеюць "наверсе", мы проста загінем. Мы ўваходзім у сістэму канцэрна "Беллегпрам". І я хацела б, каб вашыя чытачы ведалі пра тое, што прэзідэнт гэтага канцэрна Валерый Аляксандравіч Пятроў — гэта той чалавек, з якім Цэнтру Моды і ўсёй лёгкай прамысловасці Беларусі пашчасціла. І ён, і ягоны намеснік добра адчуваюць неабходнасць Цэнтра Моды ў жыцці нашай галіны і вельмі імкнуцца нам дапамагчы.

**— І ў чым жа яна, вашая неабходнасць, цяпер і ў будучыні?**

— Сёння фабрыкі аырентуюцца на Захад. Яны прадаюць сваю працоўную сілу. Шыюць заказы паводле еўрапейскіх лекалаў, на еўрапейскіх лініях, з еўрапейскіх матэрыялаў і атрымліваюць заработную плату, якую ўжо не плоцяць у маларазвітых краінах. Але гэта сёння. А заўтра непазбежная страта ўзроўню і рынку. Мы для іх штосьці накшталт дадатковай пазіцыі: мы маем усё, што ім тэрмінова спатрэбіцца заўтра. Калі яшчэ больш канкрэтна, дык мы не даем ім і сёння зусім "саскочыць з рэек". Штосьці яны ўсё ж шыюць і "самі" на свой унутраны рынак. А хто ім, акрамя нас, падкажа, што менавіта трэба? Прадпрыемствы не ў стане вывучаць сёння сусветны рынак, моду, яе накірункі, новыя тканіны... А ў Цэнтры Моды цэлая армія спецыялістаў, якія актыўна ўдзельнічаюць у міжнародных выставах, семінарах, аналізуюць напрамкі сусветнай моды. Сёння мы — умова таго, што беларускія швачкі не апынуцца ў "хвасце" падзей, калі прыйдзе гадзіна "Х". І гэта будзе наша гадзіна. І зусім не так проста ўсё гэта распрацаваць і захаваць.

**— Дзе ўдалося пабываць за апошні час?**

— Нядаўна нашыя спецыялісты былі ў Лейпцыгу, Дзюсельдорфе, Шарджы. Мы маем цудоўныя стасункі з грандамі моды і індустрыі адзення. Хіба фабрыкі маюць такую магчымасць? Мы — іхняя надзея і паратунак.

**— Ці не дорага абыходзяцца гэтыя "надзея і паратунак"?**

— Паратунак ніколі не быў занадта дарагім. Бо — калі ўратуешся, дык будзеш жыць і ствараць, а значыць — зарабляць і набываць... І потым, дзе вы бачылі армію без разведкі? Без яе не абысціся: армія загіне. А калі шчыра, дык не так ужо і дорага. У параўнанні з Захадам — проста несур'ёзна.

**— А канкрэтна, якія замовы Вы атрымалі ў апошні час?**

— Распрацоўка фірмовага стылю для арганізацый, гатэляў, санаторыяў.

**— А самі шукаеце замовы?**

— Безумоўна. Гэта і аркестры, да прыкладу, калектыў Фінберга, і крамы — "Панарама", "Дамавік", універмагі, тэлебачанне, спявачкі, дыктары. Многія фірмы апранаюцца ў нас.

**— А што на канвееры зараз, у гэтую хвіліну?**

— Вопратка для кампаніі "Белавія", падрыхтоўка фірмовага стылю для гатэля "Беларусь".

**— Як выглядаюць замовы колькасна?**

— Ад аднаго касцюма да сотні. Не "вал", безумоўна, як у фабрык...

**— А фабрыкі?**

— Нешта замаўляюць, але яны не плоцяць, а працаваць у крэдыт пры такім фінансавым становішчы мы ўжо не можам. Пяць прадпрыемстваў не разлічыліся яшчэ за мінулы год — 300 мільёнаў рублёў. Не ведаю, як узяць гэтыя грошы. А фірмы плоцяць. За кошт гэтага і жывём.

**— Мабыць, людзям цяпер будзе зразумела, чым займаюцца канструктары, мастакі, мадэльеры, якія працуюць для большасці. А што такое калекцыі?**

— Дакладней, метадычныя калекцыі. Гэта базавы напрамак, тая самая мода, пра якую мы ўжо казалі. Два разы на год мы наладжваем яе дэманстрацыю. Яна, зазвычай, апярэджвае "падзеі" на год. У лістападзе — "восень — зіма-97". Гэта — верагодны прагноз. Запрашаем "усю" лёгкую прамысловасць, бытавыя службы, гандлёвыя кампаніі. Гэта двухдзённы семінар: тканіны, мода, стылі, прапорцыі, аксесуары, колеравая гама — поўны пакет інфармацыі. Выдаем часопіс да гэтага паказу, дзелімся маркетынгавымі даследаваннямі рынку. Карацей, даем арыенціры, і калі прадпрыемствы будуць імі карыстацца, дык яны не "вылецяць у комін". Але прадпрыемствы не могуць цалкам падпарадкоўвацца нашым рэкамендацыям — зноў жа недахоп грошай. Усе ў даўгах, у падатках, у працэнтах за крэдыты.

**— Як жа будзем выходзіць з гэтага становішча?**

— Гэтае пытанне не да мяне.

**— А калі б Вы былі прэзідэнтам ці, прынамсі, прэм'ер-міністрам?**

— Зараз важная падтрымка вытворцаў. Бо становішча ўжо не "ля мяжы", а "на мяжы". Ва ўсіх! Але не могуць усе дырэктары і ўсе спецыялісты адначасова стаць дурнямі і развучыцца працаваць! Калі не працуе ўся вытворчасць, дык прычына не ў ёй, а ва ўмовах, у эканамічнай палітыцы. Я б паспрабавала тэрмінова змяніць падатковую палітыку і зрабіць узаемазалікі, а якіясьці пазыкі прадоўжыла б. Калі ўсё пачне працаваць, пазыкі будуць вернутыя. У Літве гэта ўжо зроблена.

У нашай галіне шмат таленавітых людзей. Яшчэ не так даўно да нас ездзілі вучыцца. Мы былі самымі высокатэхналагічнымі ў СССР. Наш "Дом мадэляў" "грымеў" па краіне. Трэба даць магчымасць працаваць і зарабляць і ўсё вернецца. Бо мы ж, "Цэнтр Моды", яшчэ трымаемся, а многія ўжо "палеглі".

**— За кошт чаго трымаецеся?**

—Любім сваю справу і ўдасканальваем яе. Мы сёння інтэлектуальны цэнтр, інстытут моды, нацыянальны набытак. І без няшчырай сціпласці хачу сказаць, што сёння я аддаю ўсе сілы, каб захаваць яго і праз вашу газету дзякую ўсім, хто нас падтрымлівае.

А з многімі навуковымі інстытутамі адбылася трагедыя: іх супрацоўнікі, надзея нацыі, даўно ўжо стаяць на "Дынама".

**— Як зрабіць "імя" ў модзе?**

— На імя трэба працаваць. Імя — гэта слава ўсёй фірмы. Ты не можаш прыйсці і заявіць: "Я — імя!". Імідж мадэльера — гэта рэклама, навуковая "раскрутка", праца соцень людзей, гэта велізарныя грошы, інвеставаныя ў імя. І калі яно з'яўляецца, сцвярджаецца, прываблівае людзей рынку, бярэ на сябе ролю лідэра ў модзе, — тады яно пачынае прыносіць такі прыбытак, пра які можа марыць буйны завод. Я ведаю выпадкі, калі мадэльер здолеў зрабіць для сваёй краіны больш за Міністэрства замежных спраў разам з Мінфінам.

**— Гэта не перабольшванне?**

— Зусім не. Мода сёння — гэта палітыка. Паўсюль адзенне было часткай іміджу краіны, толькі не ў нас. У нас адзенне заўсёды было "анучай". Усе нашыя дасягненні былі "калектыўным" плёнам. Імя было не ў пашане. Не было "сцяга". Безаблічча. Няма імя — няма адказнасці. Я бачу адну са сваіх задач у дапамозе творчым людзям, вельмі хачу, каб іхнія імёны былі "агучаныя". І таму адчыняю наш Салон.

**— Што гэта?**

— Гэта цудоўная ідэя, пра якую я марыла гадамі, сёння стала рэальнай для Цэнтра Моды. Салон адчыняецца на пачатку кастрычніка. Запрашаю.

**— Але гэта будзе занадта дорага?**

— Па-рознаму. Будзе і дорага, і не вельмі. Поўная інфармацыя пра тое, што для вас добра і што кепска. Эксклюзіўная замова, ды яшчэ і тэрмінова, тады — дорага.

**— Хто яшчэ будзе запрошаны на адкрыццё Салона?**

— Дзяржаўныя дзеячы, супрацоўнікі амбасадаў, творчая інтэлігенцыя, замежныя госці і нашыя трывалыя замоўцы.

**— Хто з супрацоўнікаў амбасадаў апранаецца ў Вас?**

— Чэхі, італьянцы, амерыканцы, ізраільцяне, англічане, расейцы... Яны ацанілі нашую якасць і ўзровень цэн.

**— А наш Прэзідэнт апранаецца ў Вас?**

— Пакуль не. Але нашу каманду клуба вясёлых і знаходлівых мы апранулі згодна з просьбай ягонага памочніка. Мяркую, што гэта была ягоная ідэя.

**— "Простыя савецкія людзі", не прэзідэнты і не жонкі паслоў, выказвалі сваё стаўленне да Вашай працы?**

— Не аднойчы. Гэта былі настаўнікі і медыкі, рабочыя. Па тэлефоне: "Мелі гонар набыць вашае адзенне". За кулісамі: "Як добра, што вы ёсць!" Людзям заўсёды патрэбна прыгажосць. Гэта закон жыцця. А вы кажаце, мода памерла.

**— Я не сцвярджаю, я пытаюся. Дзе Вы апранаецеся?**

— Толькі ў сябе. Я вельмі хачу, каб мы апраналі тое, што вырабляем, тады і вырабляць будзем толькі добра.

**— Ваш працоўны дзень. Сёння.**

— На першым месцы — фінансы. Што прыйшло на рахунак, як размеркаваць... падаткі, сыравіна, заработная плата... Скаваныя адным ланцугом: нам вінаватыя, мы вінаватыя, і ніхто не можа працаваць. Картатэка. Другое: творчасць. Збіраю галоўных спецыялістаў: што выпускаць на канвеер, якая ніша вольная. Што прапануе маркетынг? Трэцяе — будоўля. Салон, крама, рамонт асноўнага будынка... Рознае: італьянцы далі тканіну з адтэрміноўкай плацяжу на 90 дзён, нашы — ніводнага метра без папярэдняй аплаты.. І — людзі, іхнія праблемы...

**— Дэлегацыі?**

— Бываюць часта. Нядаўна адбыліся перамовы з нямецкай фірмай "Бэры" пра сумесную вытворчасць высокакласнага адзення для Еўропы і ўнутранага рынку.



**— Як Вы пачуваецеся ў ролі дырэктара?**

— Я люблю сваю працу і людзей, якіх бачу штодня. Я з радасцю сюды прыходжу і знаходжуся тут 12 гадзін. Задавальненне прыносіць тое, што я магу здзейсніць, што задумала.

**— Салон?**

— І Салон. І праграму стварэння новага нетрадыцыйнага асартыменту, а таксама вытворчасці сучаснага нацыянальнага адзення з нашых традыцыйных матэрыялаў — ільну... Паказалі неяк у Кітаі — якое было захапленне! Ды тут не пераказаш усіх планаў. Мару, каб Цэнтр Моды, як гэта робяць на Захадзе, быў уключаны ў Пратакол "абавязковага" наведвання замежнымі дэлегацыямі: мы ж з'яўляемся дзейным, працуючым музеем сучаснай беларускай прыгажосці.

**— Бліжэйшыя планы?**

— Праца без пасрэднікаў, толькі з вытворцамі. Паездка ў Эміраты на кірмаш тканін і аксесуараў.

**— Што чытаеце?**

— Апошні час філасофскую літаратуру, якая "тлумачыць" жыццё. Перыяд XIX стагоддзя мінуў, лірыкі і дэтэктываў — таксама. А вось Плутарха прачытала з задавальненнем.

**— Нарэшце запатрабаваныя старажытныя, вечныя...**

— І публіцыстыку, газеты. І цікава, і смешна... І, безумоўна, шмат "свецкай літаратуры".

**— Калі Вы працавалі мадэльерам-канструктарам, у Вас былі добрыя мадэлі?**

— Калі я й паказвала свае распрацоўкі, наш галоўны канструктар казаў, што яны ўсе падобныя да мяне.

**— Тады гэта, сапраўды, былі добрыя мадэлі. Прыгожыя. А сёння Цэнтр Моды падобны да свайго дырэктара?**

— Пакуль яшчэ не.

*Любоў Васілеўна смяецца, а мне чамусьці, хаця я ў модзе не асабліва дасведчаны, прыемна, што яна, вось такая — спакойная, упэўненая, поўная годнасці і — вельмі прыгожая, што менавіта яна, — дырэктар гэтага беларускага запаведніка Прыгажосці.*

КАМЕРТОН



# АПОШНІ ФАРПОСТ БЕЛАРУСКАЙ БАРДАЎСКАЙ ПЕСНІ

*Як стала вядома, 7, 9 і 10 кастрычніка ў Палацы культуры прафсаюзаў адбудзецца ўжо традыцыйны нацыянальны фестываль бардаўскай і самадзейнай песні "Менск-96", які праводзіцца на дабрачыннай аснове групай энтузіястаў.*

*Наш карэспандэнт Сымон Птах сустрэўся з адным з гэткіх апантаных завадатараў Кастусём ЕЛІСЕЕВЫМ.*

**— Наколькі я памятаю, ты ўваходзіў у Аргкамітэт мінулага фестывалю, пра які наша газета ўжо пісала. Ці чакаюцца кардынальныя канцэптуальныя змены на гэты раз?**

— У прынцыпе канцэпцыя не змянілася, але стала больш выразнай. Мы строга акрэслілі кола прызнаных як крытыкай, так і слухачамі аўтараў-выканаўцаў. Калі летась працавалі па аддзяленнях толькі тры аўтары, то цяпер іх колькасць вырасла да шасці, сярод іх Зміцер Бартосік, Лера Сом, добра вядомы ўсім Андрэй Мельнікаў ды іншыя. Акрамя таго, свой час маюць і маладыя аўтары.

На гэты раз мы раздзялілі ўласна самадзейную песню і бардаў.

**— А якія вы бачыце між імі адрозненні?**

— Аднойчы я сутыкнуўся з такой праблемай: сказалі, што ўсе нашыя барды не маюць уласцівага падлеткам з гітарамі рамантычнага іміджу — недапітая пляшка гарэлкі ў кішэні, у роце дыміцца папяроса, гітара разладжаная, але спявае душэўна... пра жыццё. Мы ж за такой рамантыкай не гонімся. Вальжына Цярэшчанка мае цудоўны голас, ім яна перакрывае ўсю нашую эстраду, разам узятую, выходзіць спяваць у белай сукенцы — вось яна і ёсць сцэнічны бард, яна адказвае за ўсё; і за словы, і за музыку, і за свой знешні выгляд. У самадзейнай песні выгляд аўтара, як і манера выканання, сэнсу не мае. Калі ў Францыі тамтэйшыя барды спяваюць з аркестрам, ніхто не абвінавачвае іх у парушэнні стылістыкі жанру. "Самадзейнасць" дае значна больш вольнасці ў самавыражэнні.

**— А як, па-вашаму, ставіцца да больш, так бы мовіць, "панкаватых" выканаўцаў, якім, напрыклад, у Расеі, з'яўляецца Ягор Летаў?**

— Калі выконваецца трыадзінства словаў, музыкі і выканання, такі аўтар будзе вартым.

**— Раз ў цябе такі жорсткі падыход да выканання і зместу, як гэта ўспрымаюць самі выканаўцы? Ці няма падзелу паміж "пачаткоўцамі" і "зубрамі"?**

— Не, няма. Тыя, хто працуюць у нас, — працуюць у камандзе, дзе самае галоўнае — гэта імкненне чалавека да творчасці ў прынцыпе і мастацкага росту. Кожны пачатковец у такім асяродку пачувае сябе такім самым бардам. Проста ў яго меней досведу.

**— Вось, напрыклад, я чымсьці натхніўся і напісаў, як мне здаецца, класную песню. Ці магу я трапіць у гэтую каманду? Да каго мне звяртацца?**

— Усё ж такі мы праводзім не конкурс, а фестываль. Акрамя самавітых аўтараў мы запрашаем тых, хто быў добра адзначаны на конкурсах самадзейнай песні. Так, летась мы цалкам абапіраліся на магілёўскі конкурс "Новы горад" і фестываль "Аршанская бітва".

**— Але ў гэтым годзе становішча з бардаўскай песняй пагоршылася, і ні магілёўскага конкурсу, ні аршанскага фестывалю не было. Як вы цяпер арыентуецеся ў сітуацыі? Жывяце старымі "запасамі"?**

— Так, становішча пагоршылася, і наш фестываль застаўся толькі дзякуючы Фонду Сораса на Беларусі. А наконт старых запасаў — не, да нас можна звярнуцца праз газету "Беларуская маладзёжная" і праз іншых аўтараў. Такім чынам, напрыклад, мы знайшлі Славу Крыловіча, вельмі апрычонага аўтара. Ён звярнуўся да аднаго з нашых удзельнікаў, паразмаўляў з ім і знайшоў агульную мову з намі.

Але ж толькі мы прымаем рашэнне аб удзеле пэўнага чалавека, таму сам па сабе зварот да нас не азначае аўтаматычнага станоўчага адказу. У нашай камандзе мы прыслухоўваемся да меркавання ўсіх: "мэтраў", прафесійных музыкантаў, нашых адміністратараў, журналістаў.

**— Пад дахам фестывалю "Менск — 96" праходзяць выступленні як рускамоўных, так і беларускамоўных бардаў, ці не адчуваецца паміж імі штосьці падобнае да канфрантацыі?**

— Мы ўсе памірыліся летась у Магілёве.

**— Дык што, сапраўды была вялікая непрыязь?**

— Было вельмі шмат надуманых момантаў, сутычак-размоў.

**— Напрыклад?**

— Гэтыя апалітычныя — тыя не. Гэтыя гоняць "сацыялку" — тыя адну лірыку. Але для нас гэта не прынцыпова, і калі чалавек жыве мастацтвам, а не эпатажам, канфлікты яму проста будуць непатрэбныя. Папрацаваўшы ў адной звязцы, мы зразумелі, што ідзем паралельнымі шляхамі і чаму нам не ісці разам, хаця, насамрэч, у нас розная публіка. Сёлета першы і трэці канцэрты беларускамоўныя, у другім — удзельнічаюць госці, гэта расейскамоўныя барды і ўкраінскі бард Стас Трызубы, найяскравейшы прадстаўнік жанру палітычнага "прыколу".

**— Ці можаш ты ахарактарызаваць найбольш адметных запрошаных беларускіх бардаў?**

— Зміцер Бартосік. Палову жыцця правёў у вандраваннях. Жыў па ўсёй заходняй частцы Савецкага Саюза. Лірык і "прыкаліст" адначасова. Ягоны гумар змагаецца з ягонай адданасцю каханню і Радзіме. Публіка ніколі не сумуе.

Сяржук Мінскевіч. Апрыёры прыроджаных гумарыстаў у нас вельмі мала... Не баіцца працаваць у любой праграме з прадстаўнікамі іншых жанраў, схільны да "панкавання". Песні ў вуснах шматлікіх слухачоў.

Віктар Шалкевіч. Паэт-сатырык з акторскім талентам. Гіпнатызуе публікіу да поўнай "адключкі". Можа ўлагодзіць і можа збянтэжыць, як і Сяржук Мінскевіч, уносіць тэатральны элемент у выкананне, якога іншым часамі бракуе.

Вольга Акуліч. Чалавек фенаменальны, але як бард малаадкрыты. Заўсёды выйграе тэкстам, мелодыку мае таксама досыць цікавую. Знаходка для любой хіпаватай кампаніі, але ў сцэнічным выкананні занадта капрызная.

Андрэй Мельнікаў. Прызнаны змагар, узброены рыцарскай лірыкай. Цудоўны стылізатар. Ён прыносіць нам і дух сярэднявечча, і пачуццё пратэсту ў сучаснай бязвыйсnасці. Ён заўсёды ўражваў мяне сапраўдным мужчынскім стаўленнем да жыцця, айчыны, сям'і.

Лера Сом. Бард больш вядомы ў Маскве, чым у Мінску. Часамі здаецца, што яна абапіраецца на зямельную энергетыку Полацка, прыносячы нам паэзію, узятую з самай глыбіні чалавека. Адна з самых моцных беларускіх паэтэс усіх часоў.

Вальжына Цярэшчанка. Як яна стала бардам — загадка не толькі для нашага пакалення. Яе оперны голас, мацней за іншых пастаўленае пачуццё кампазіцыі пераконваюць нас у тым, што такія людзі мусяць працаваць толькі ў камерна-класічных умовах. Пры гэтым сэнс твора ніколі не прайграе. Мы не можам вызначыць, што для яе галоўнае. Сэнс верша ці музычнае гучанне. І што заўважаюць усе музыканты, яна шыфруе ў сваіх мелодыях фальклор.

Алесь Камоцкі. Як і Вальжына Цярэшчанка, мае музычную адукацыю. Не пераўзыдзены музычны стыліст. Яго выкананне падобна яскраваму дыяменту, якое не возьме ніякая крытыка.

**— Ходзяць чуткі аб прыездзе такіх вядомых асоб, як Сяржук Сокалаў-Воюш і нават Данчык...**

— З Сокалавым-Воюшам я гаварыў па пражскім тэлефоне: ён хоча прыехаць, але зможа, толькі калі аформіць дакументы. А Данчык чакаецца нібыта ў лістападзе...

**— Дзякуй за размову, поспеху фестывалю.**

— Прыходзьце, чакаем усіх.

# АДКРЫЦЦЁ ПЕРАД'ЮБІЛЕЙНАГА СЕЗОНА

Свята... Як мала цяпер мы сустракаемся з гэтай з'явай у нашым няпростым жыцці. Кожная цікавая падзея, якая выходзіць за рамкі будзённага, спрыяе нашаму настрою, надае колер радасці ўсяму, што існуе вакол нас. Такім святам было адкрыццё ў зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі 59-га канцэртнага сезона. Музыкантаў-прафесіяналаў і аматараў аб'яднала жаданне далучыцца да чароўнага свету гукаў і мелодый, адчуць натхненне і разам з выканаўцамі пачаць перад'юбілейны сезон. Як вядома, у наступным, 1997 годзе філармонія ўрачыста адзначыць шасцідзесяты дзень нараджэння — юбілей, які патрабуе своеасаблівай падрыхтоўкі. Да такой значнай культурнай падзеі трэба ставіцца з усёй сур'ёзнасцю: падвесці вынікі творчай працы, скласці праграмы канцэртаў, якія адбудуцца ў сезоне, здзейсніць творчыя планы і задумы. І першая праграма гэтага года была сапраўдным крокам да юбілею філармоніі, яна задаволіла самых патрабавальных слухачоў: прэм'ернае выкананне Канцэрта для фартэпіяна з аркестрам вядомага беларускага кампазітара Дзмітрыя Смольскага і 13-я сімфонія Шастаковіча. Без перабольшвання адзначым, што гэтыя творы выклікалі цікавасць яркім адлюстраваннем асоб аўтараў і прафесійным майстэрствам. Дзякуючы выканаўцам і іх трактоўцы слухачы мелі магчымасць наблізіцца да першапачатковага разумення ідэі кампазітараў.

Першым выкананым творам быў Канцэрт для фартэпіяна з аркестрам Дзмітрыя Смольскага. Зварот да жанру інструментальнага канцэрта — не адзінкавы выпадак у творчасці кампазітара. Менавіта фартэпіянны канцэрт быў дыпломнай працай Дзмітрыя Браніслававіча ў час заканчэння Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Ужо ў ранняй творчасці ён звяртаецца да пошукаў цікавых гучанняў фартэпіяна, выкарыстоўвае ўсе віды піяністычнай тэхнікі.

Канцэрт, прадстаўлены на адкрыцці сезона, быў завершаны ў пачатку 1996 года, а ўпершыню выкананы 12 мая таго ж года (саліст — Дзмітрый Марозаў). Выкананню твора ў верасні папярэднічала складаная праца з новымі музыкантамі. Піяніст Цімур Сергеення, дырыжор Віктар Собалеў і сам Дзмітрый Смольскі разам шукалі шлях да найбольш дакладнай інтэрпрэтацыі аўтарскай задумы. Безумоўна, кожны выканаўца мае ўласнае разуменне твора, але піяніст здолеў пры гэтым не адысці ад канцэпцыі аўтара, захаваўшы шматграннасць вобразаў і падзей. Згодна з першапачатковай трактоўкай канцэрта, у двух частках суіснуюць светлыя, аптымістычныя, насычаныя прыгожымі падгалоскамі тэмы (лірычная і празрыстая мелодыя флейты з І часткі, вядомая мелодыя накцюрна Ліста) і востра драматычныя тэмы (матывы жалобнага марша Шапэна, "тэма нашэсця" з 7-й сімфоніі Шастаковіча і заключны эфект удара кулаком па крышцы раяля) — усё гэта ўспрымаецца як драматычнае развіццё падзей, музычных вобразаў. Вобразны свет гэтага канцэрта можна параўнаць з малюнкамі карнавала чалавечага жыцця, якія хутка змяняюць адзін аднаго.

Чалавек павінен памятаць не толькі аб сваёй велічнасці на Зямлі, але і пра заканчэнне шляху свайго існавання, што можа здарыцца ў любы момант (memento mori!). Менавіта такое ўражанне складаецца пры чарагаванні шматлікіх музычных цытат у ІІ частцы твора: грацыёзная бесклапотнасць тэмы з уверцюры да "Севільскага цырульніка" Расіні раптам змяняецца трагічнымі інтанацыямі "тэмы лёсу" Бетховена, рытмічная танцавальная мелодыя — жалобным маршам Шапэна. Выкарыстанне кампазіцыі Дж.Кейджа з так званай "хвілінай маўчання" таксама мае сімвалічны сэнс. Такім чынам, арганічнае выкарыстанне цытат прадстаўляе знаёмы ў сучаснай музыцы прыём калажа, з яго дапамогай кампазітар здолеў дасягнуць шматграннасці і тэатральнай эфектнасці ў адлюстраванні розных жыццёвых сітуацый у межах аднаго твора.

Па словах І.Вядзеніна, прафесара Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, нечаканасць і арыгінальнасць канцэрта абумоўлена творчай асобай Д.Смольскага: "гэты сур'ёзны мастак і аднначасова малады душой чалавек, надзвычай самабытны кампазітар, чый уносак у беларускую музычную культуру неацэнны". Гэты канцэрт, несумненна, складзе яркую старонку ў беларускай фартэпіяннай музыцы, у творчасці самога кампазітара і ў рэпертуары піяністаў. Творчае дасягненне Дзмітрыя Смольскага пацвярджае і піяніст Цімур Сергеення: ён лічыць канцэрт адным з цікавейшых віртуозных твораў у беларускай музыцы.

Гэтак і здарылася з 13-й сімфоніяй Дзмітрыя Шастаковіча, якая лічылася "вельмі вальнадумнай", і сустракаліся вялікія складанасці пры першым выкананні, доўгі час яна не друкавалася. Цяпер гэты твор быў прысвечаны юбілею — 90-годдзю з дня нараджэння кампазітара. Асоба Дзмітрыя Шастаковіча — геніяльнага творцы, які вытрымаў ціск жорсткіх абвінавачванняў з боку крытыкаў і здолеў адрадзіць жанр сімфоніі ў XX стагоддзі, — уяўляе прыклад трагічнага лёсу творцы. Па словах Генрыха Арлова, настрой музыкі Шастаковіча — "сур'ёзны, жорсткі, драматычны — быў заўсёды выкрыццём міфа, што "жыць стала лепей, жыць стала весялей". Незалежнасць поглядаў на жыццё супярэчыла афіцыйнай ідэалогіі, што выклікала абвінавачванне ў фармалізме яго "бястэкставай, сімфанічнай, абстрактнай музыкі". Толькі пасля "адлігі" Шастаковіч зноў звярнуўся да сімфанічнага жанру, але выкарыстаў публіцыстычны тэкст. І 13-я сімфонія адлюстроўвае імкненне кампазітара-сатырыка, памфлетыста выкрыць недахопы сучаснага яму жыцця.

Вершы маладога Я.Еўтушэнкі былі сугучныя ідэям кампазітара, і ў выніку нарадзіўся твор, цалкам накіраваны на сцвярджэнне этычных законаў, ідэй выкрыцця "маральных хваробаў" свайго часу. Нават і цяпер сімфонія гучыць вельмі актуальна. Выканаўцы — Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла Беларусі імя Р.Шырмы (мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор — заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Людміла Яфімава), Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі (дырыжор — Віктар Собалеў) і саліст — заслужаны артыст Расіі Анатоль Сафіулін — з вялікім пачуццём і выразнасцю прапанавалі слухачам сваю інтэрпрэтацыю твора.

Востра драматычны характар І часткі ("Бабін Яр") падаецца своеасаблівым журботным рэквіемам. Герой ІІ часткі — "Гумар" — мужны чалавек, яго пераўтварэнні прасякнуты жыццесцвярджальным аптымізмам. Аўтарскі маналог-роздум ІІІ часткі — аб лёсе рускіх жанчын, пяшчотных анёлаў сям'і. Манументальная карціна IV часткі з жорсткай аркестроўкай перадае вобраз "Страху" і мае таксама гераічны спеў хору, ад якога V частка атрымлівае запал бадзёрай энергіі. А заканчэнне сімфоніі — фінальныя "пяшчотна-ўсёдаравальныя гукі" аркестра зноў малююць слухачам асобу Дзмітрыя Шастаковіча — чалавека, які прайшоў разам з усёй Расіяй цяжкую і складаную гісторыю. "Вялікі, супярэчлівы, цудоўны, трагічны, радасны. Гэта XX век з усімі яго захапленнямі і жахамі" (Валерый Афанасьеў).

На наш погляд, сезон адкрыўся вельмі ўдала. Выбраныя творы арганічна падтрымлівалі і дапаўнялі адзін аднаго. Бясспрэчна, творы Д. Смольскага і Д. Шастаковіча маюць дастаткова вялікую часавую дыстанцыю, кожны з мастакоў імкнуўся ўвасобіць розныя ідэі і канцэпцыі, але разам з тым яны маюць і агульныя рысы. Пэўнае падабенства існуе і ў вобразным свеце — разважанне аб трагічных старонках жыцця, і ў выкарыстанні кантрастнага супрацьпастаўлення розных эмацыянальных станаў. Усё гэта дазваляе знайсці ўнутраную сувязь паміж музыкантамі розных часоў, розных стыляў, розных творчых індывідуальнасцей. Як вядома, Дзмітрый Смольскі лічыць Шастаковіча найбольш блізкім сабе кампазітарам, чые творы, паводле слоў Дзмітрыя Браніслававіча, "маюць такую велізарную сілу ўздзеяння, што кожны музыкант падпадае пад гэты ўплыў..."

* * *

Хацелася б спадзявацца на новыя сустрэчы з усімі выканаўцамі, якія выступалі ў гэты вечар і якія знаходзяцца ў тым стане, калі творчая праца прыносіць задавальненне і выканаўцам, і слухачам. Новыя праграмы Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі, харавой капэлы імя Р.Шырмы, дырыжора В.Собалева, піяністаў Ц.Сергеені, А.Сафіуліна безумоўна выклічуць цікавасць слухачоў, будуць сапраўдным святам у Дзяржаўнай філармоніі і ў іншых канцэртных залах Беларусі. Да новых сустрэч!

**Яўгенія МАЦКЕВІЧ**

***Адказы на крыжаванку "Музыка", надрукаваную ў нумары 36 — 37.***

**Па гарызанталі:**

1.Рытм. 4.Фауст. 7.Стравінскі. 11."Гаянэ". 14.Кабалеўскі. 18.Нона. 20.Рабоб. 22.Адан. 23."Алека".. 24.Ронда. 25.Андрэ. 26.Кода. 27.Кансерваторыя. 28.Семяняка. 29.Сурус. 30.Гуно.

**Па вертыкалі:**

2.Тэтрахорд. 5.Абразцова. 6.Сінкопа. 8.Тарантэла. 10.Кантрабас. 12.Акт. 13.Напраўнік. 17.Святланаў. 19."Алеся". 21.Басун.

**Па зігзагу:**

3.Мулявін. 4.Фрадкін. 9."Нэрон". 15.Алоўнікаў. 16.Лейтматыў.

КАРАНІ

# МЕДЫЦЫНА МАІХ ПРОДКАЎ

АСОБНАЕ месца ў нацыянальнай культуры беларусаў належыць народнай медыцыне. За доўгія стагоддзі беларускі этнас паназапасіў значны вопыт многіх пакаленняў у зберажэнні людзей ад хвароб, папярэджванні смяротных захворванняў. І толькі ў савецкія часы гэты вопыт бэсцілі, залічыўшы народную медыцыну да цемрашальства. На самой справе, як і чым лячыліся беларусы раней, можна яшчэ і сёння даведацца ў час вандровак па вёсках рэспублікі. А карысталіся нашыя продкі травамі, замовамі, выкарыстоўвалі нават для гэтай мэты агародніну, яйкі, сала, хлеб і іншую ежу. Экспедыцыйныя паездкі даюць падставы канстатаваць, што кожны жыхар старэй за пяцьдзесят гадоў мае пэўны багаж ведаў, каб без доктара дапамагчы сабе. Сёння, калі афіцыйная медыцына прызнае вартасць народнай, высвятляецца бездапаможнасць моладзі, якая, скажам, не ўмее спыніць кроў сокам травы, не ведае, як змагацца з "рожай" і іншымі хваробамі. І ў гэтым вінаваты найперш былыя дзяржаўныя структуры, якія вынішчалі амаль семдзесят гадоў маральна і фізічна носьбітаў традыцыйнай медыцыны. У рэшце рэшт адбылося тое, што сёння маем: гвалтам перарваліся традыцыі, моладзь не здольная ўспрыняць каштоўнасць спадчыны, старыя адыходзяць з жыцця, не маючы мажлівасці перадаць веды. Таму па вёсках усё часцей і часцей даводзіцца чуць прозвішчы лекараў, якія панеслі з сабой сакрэты вопыту. У мястэчку Будслаў, напрыклад, кажуць, што Юлія Альшэўская, маці таленавітага самародка, разьбяра па дрэве Антона, лекавала зубы пры дапамозе галінкі рабіны. Да яе і на сотым годзе жыцця ішлі хворыя, таму сын выкапаў і прынёс з лесу гэтае дрэўца, пасадзіў каля плоту, каб ёй не хадзіць далёка.

Праўда, тое-сёе аб народнай медыцыне запісалі фалькларысты мінулага стагоддзя і савецкага часу, але яны галоўную ўвагу звярталі на словы замоў, а этнографы недаацэньвалі значнасці і вартасці атрыбутыкі, якой карыстаўся лекар. Так, напрыклад, пры замове "валасеня" (рана ад парэзу рукі ці нагі, якая доўга не зажывае) не толькі шэпчуць малітву, але і карыстаюцца жывымі каласкамі, абкручваючы імі хворае месца і пераліваючы цераз іх цёплую ваду. Гэта не простыя каласкі! Спачатку лекар падпільноўвае той момант, калі колас выплывае са сцябла — зразае дзевяць каласкоў. Другі раз прыходзіць на поле тады, калі жыта красуе, і зразае таксама дзевяць штук. Трэці раз зразае столькі ж тады, калі колас налівaецца. Вось чаму, калі зойдзеш у хату да Кацярыны Паплаўскай у Будславе, убачыш на сцяне пучок каласкоў. Яны не дзеля аздаблення інтэр'ера, а як сведчанне — тут жыве народны лекар. Паплаўская нарадзілася ў 1928 годзе ў вёсцы Слабада, сакрэту лекавання навучыла яе маці, а тая, у сваю чаргу — пераняла ад сваёй маці...

Часам адказ на многія сакрэты народнай медыцыны можна знайсці ў назве расліны, яна нібыта падказвае, што можна той ці іншай травой лячыць. Напрыклад, "гарлянка" лечыць горла, а "крываўнік" — ад слова "кроў" — мае дачыненне да лекавання крыві. Бывае, у назве хваробы чуваць адказ, чым лячыць —"крапіўніцу" выганяюць крапівой, як народная прымаўка кажа: "клін выбіваюць клінам".

Трава "гарлянка" лечыць усе хваробы горла: ангіну, астму, бранхіт, але ўвесь сакрэт у тым, што знахары раяць піць напар кожны дзень не менш як месяц — два. Калі ў некаторых мясцінах гэтую траву не ведаюць нават лекары (яна мае кветачкі фіялетавага колеру, як і чабор, толькі не пахне), то "крываўнік" пакажа кожны стары. Сокам гэтай расліны спыняюць кроў.

А вось што датычыцца "крапіўніцы", то з ёй можна развітацца раз і назаўсёды, без уколаў кальцыя. Галоўнае, каб у час, калі яна высыпе на целе — расла крапіва. Карыстаюцца крапівой маленькай, якая цвіце беленькімі кветачкамі аж да замаразкаў, у некаторых мясцінах яе называюць "жыгаўка", бо ёсць і "глухая", тая, што некалі варылі ранняй вясной. Венікам з крапівы "жыгаўкі" сцёбаюць па ўсім целе, і калі скура свярбіць, то "кусанне" крапівы вельмі прыемнае. Ад уколаў кальцыю на скуры застаюцца фіялетавыя плямы, пакуль не будзе прынята патрэбная доза, а ад удару крапівой скура становіцца адразу ружовая, а сверб знікае канчаткова. Апрабоўваючы на сабе такі метад лекавання, я толькі пазней даведалася, што ў кожным валасочку лісточка крапівы знаходзіцца маленькая "ампулка" кальцыю, і праз скуру натуральны кальцый трапляе ў кроў.

Акрамя дзікіх траў беларусы выкарыстоўвалі кветкі, якія сеялі ў агародчыку пад вокнамі ці на агародзе. І найбольшую пашану аддавалі "нагаткам", нібы яны лечаць нават глебу. Напарам прамывалі раны, пілі пры ўсіх запаленнях, а ў вёсцы Карані Смаргонскага раёна жыла Вольга Жабінская, якая ўмела рабіць з іх мазь, што хутка гаіла ўсё раны. Дарэчы, у гэтай вёсцы Марыя Сосна — сямідзесяцігадовая кабета ў пачатку 50-х гадоў, раіла раны, рассечаныя сякерай, гаіць бялком сырога яйка. Таксама часта каля плоту хаты кожнага знахара можна ўбачыць на высокім сцябле жоўтыя кветачкі з вялізнымі лістамі — "дзівасіл", яго сушаным коранем пасыпалі яйка, спечанае на масле, елі нашча — лячыліся пры катары страўніка з павышанай кіслотнасцю.

У народзе адной і той жа раслінай лячылі некалькі хвароб, толькі метад лекавання мяняўся. Возьмем да прыкладу крапіву — ёй лечаць і сэрца. Мне яшчэ ў пачатку 60-х гадоў цешча драматурга Івана Козела расказала, як лячыла яму сэрца. Пазней, перад смерцю, ён доўга пакутаваў, а ўрачы казалі — моцнае сэрца. А ўся справа ў тым, што хваравіты ў дзяцінстве Козел спачатку пасля школы вырашыў стаць урачом. На першым экзамене абітурыентаў павялі ў морг, каб вызначыць іх прафесійную прыгоднасць, і тут ён страціў прытомнасць, потым дужа мучыў яго боль у сэрцы. Цешча, маючы пэўны запас ведаў па народнай медыцыне, насушыла крапівы "жыгаўкі", пацерла і сталовую лыжку парашку ўсыпала ў літровы слоік мёду. Хворы прымаў па чайнай лыжачцы раніцой і кладучыся спаць, абавязкова запіваючы халоднай вадой. Са сваёй практыкі дадам — такі метад прыдатны для хворых сэрцам, у крыві якіх павышана доза гемаглабіну.

Што ж датычыцца замоў, то ніхто з папярэдніх фалькларыстаў не імкнуўся дасканала занатаваць усю дзею, будучы ўпэўненымі, што тут рэха паганства. На самой справе ў большасці лекары пачынаюць замову з малітвы: "Ойча наш", "Багародзіца Дзева", "Міколу Угодніку"..., хворае месца гладзяць рукой, датыкаюцца пальцамі — часцей безымяннымі, дзьмуць, перавязваюць нітачкай. Нітачка тут таксама не простая! Так, у Мядзельскім раёне, на Вербную свенцяць вербачкі, аздобленыя рознакаляровымі ваўнянымі нітачкамі, потым пры замове іх ужываюць. І толькі ў канцы замовы, напрыклад, Еўфрасіння Смажэўская (1908 года нараджэння з вёскі Валасовічы Лепельскага раёна) кажа наступныя словы супраць урокаў: "Ішла Насвеншая Матка залатым масточкам, абапіраючыся срэбраным кіёчкам. Спаткалася з Госпадам Богам. А Ён яе пытае, — "Куды ідзеш, Насвеншая Матка"? А Яна Яму адвячаець, — "Я іду (імя хворага) загаварваць урокі, прарокі, жаласныя, радасныя, мужчынскія, жаночыя і малыя рэбяцкія. Дай, Божа, помач!" Іншая справа, адны знахары замову гавораць паціху — шэптам, але словы малітваў магчыма разабраць, другія — ведзьмакі, ніколі не кажуць, да каго звяртаюцца і што маюць у думках, але гаворка аб іх не датычыцца нашай тэмы.

Медыцына, як частка фальклору, не мае звестак пра аўтараў. У народнай творчасці невядома, хто, скажам, аўтар песні, мелодыі танца ці рэцэпта. Таму часам дзіўна становіцца, як нехта першы дадумаўся выганяць "ячмень" расолам агуркоў. Падагрэтым расолам мыюць галаву, добра распараны ячмень "заварушыцца". Патрэбна працягваць мыць і ён плюснецца ў міску, а на яго месцы застанецца круглая ямка. Усё! Ячмень выйшаў з коранем і крывёй, назаўсёды пакіне ваша вока ў спакоі.

Цікава, што народная медыцына не толькі лячыла хворых, але немалаважную ролю адыграла ў захаванні нацыі, ратавала мужчынскае насельніцтва ад пагібелі ў час войнаў. Што ні кажы, а зямля беларусаў ляжыць на перакрыжаванні дарог, па якіх снуўдалі ворагі. Прыходзілі і прымушалі мужчын ваяваць за чужыя інтарэсы. Вось тут і браліся за справу знахары. Яны адну траву цёрлі з соллю, потым прыкладвалі хлопцу да нагі ці рукі. Назаўтра скура пакрывалася сінімі плямамі. Глянуўшы на рану сучасны доктар упэўнена паставіць дыягназ — рак. Раней вайсковыя фельчары, не ведаючы, якая гэта хвароба, баяліся браць хлопцаў у армію, каб не заразіць войска. Яшчэ ў 20-я гады ў вёсцы Скаварошчызна Маладзечанскага раёна жыла Агата Мажуць, якая рабіла такія "раны", а лекавала іх згусткамі кіслага малака.

Аналіз беларускай народнай медыцыны дазваляе канстатаваць: тут сустракаецца вопыт вядомы нават у сусветнай практыцы яшчэ ў старажытныя часы.Так у біблії ( Кніга Товіт) ёсць звесткі, што анёл Рафаіл падказаў сыну Товія вылячыць вочы бацьку жоўцю рыбы. А ў вёсцы Нізкая Вуліца Магілёўскага раёна жыла знахарка Марыя, якая ў пачатку нашага стагоддзя знімала бяльмо жоўцю рыбак, што вадзіліся ў мясцовай рачулцы. Гэта была бабуля вядомага ў краіне мастака Паўла Масленікава.

Такім чынам, нам, беларусам, ёсць, чым хваліцца і што палажыць у скарбніцу сусветнай медыцыны, а чарнобыльская навала прымушае як мага хутчэй занатаваць для нашчадкаў традыцыйную медыцынскую спадчыну. Хочацца спадзявацца, што прыведзеныя тут простыя рэцэпты народнага лекавання (а геніяльнасць заўсёды вызначаецца прастатой) дазволяць моладзі адчуць значнасць духоўнай культуры і гонар за свой народ.

**Марыя ЖАБІНСКАЯ**

# УСЁ ПЕРАМЕЛЕЦЦА — МУКА БУДЗЕ



ІСНУЕ ў беларускага народа такое паданне. Здавён стаяў на беразе Свіслачы вялікі млын. І быў у ім млынар па імені Мянеск. Не звычайны то быў млынар — вядзьмар-чарадзей. Па начах малоў ён не жыта — буйное каменне. Потым жа на млыне раз'язджаў уздоўж ракі, збіраючы, як на карабель, розных людзей. З гэтымі людзьмі Мянеск пабудаваў потым на беразе Свіслачы горад, які ад імя яго заснавальніка стаў называцца Менск. Так гаворыць паданне.

Тое, што ў паданні ўдзельнічае чарадзейны млын і млынар-вядзьмар, зусім не выпадкова. Здаўна беларусы верылі ў чарадзейнасць млыноў і сувязь млынароў з наднатуральнымі, "нячыстымі" сіламі. Так, млын, па народных уяўленнях, з'яўляўся ўлюбёным месцам зборышча чарцей. Гэткія млыны фігуруюць у беларускіх казках як "чортавы млыны" (напрыклад, казка "Іван Залатавус" са зборніка Е.Раманава).

Асабліва шмат забабонаў было звязана з вадзянымі млынамі. Трэба сказаць, што на тэрыторыі Беларусі вадзяныя млыны існавалі здаўна, ветракі ж пачалі будавацца пазней, як лічаць, толькі недзе ў XV стагоддзі. Таму вакол вадзяных млыноў у памяці народа, у яго вуснай творчасці захавалася больш усяго павер'яў, паданняў. Лічылася, што каля вадзяных млыноў любяць жыць вадзянікі — вадзяныя нячысцікі. Гаварылі, што ля млына бывае столькі вадзянікаў, колькі маецца вадзяных колаў, на вяршыні якіх сядзяць нячысцікі, калі колы круцяцца. У купальскую ноч вадзянікі выплываюць з глыбінь і ўсе накіроўваюцца да млыноў. Вадзяныя нячысцікі часам шкодзяць рабоце млыноў, могуць папсаваць іх, раскрыць млынавыя плаціны. Здольныя яны і перашкодзіць будаўніцтву млына. Таму млынарам і будаўнікам млыноў трэба жыць у згодзе з нячыстай сілай. Лічылася, што млынары сябруюць з вадзянікамі, таму яны ніколі не тонуць. Каб задобрыць вадзяніка, звычайна млынар пры першых замаразках апускаў Вадзяному пад кола кавалак сала.

Ручныя жорны ў мінулым выкарыстоўваліся ў абрадах варажбы. Дзяўчаты на Каляды замяталі з жорнаў рэшткі мукі і пяклі з яе маленькія хлебцы ці аладкі. Потым кідалі печыва сабаку: чый хлеб ён хутчэй схопіць, той дзяўчыне раней ісці замуж.

Чаму ж жорны і млыны ў даўніну ў народным уяўленні звязваліся з рознымі наднатуральнымі сіламі? Трэба сказаць, што гэта ідзе яшчэ з часоў паганства. Нашы продкі-язычнікі адзначалі, што скрыгат жорнаў, якія труцца адзін аб адзін, нагадвае грукат грому. І народная фантазія ўявіла, што паганскі бог Пярун ездзіць па небе на "грамовым жорне", гаварылі таксама, што ён трымае ў руках двое вялізных жорнаў, якія трэ і стукае адзін аб адзін, робячы гром і маланку.

Жорны, якія з'яўляліся адным з асноўных канструкцыйных элементаў млына, як мы бачым, ужо здаўна мелі ва ўяўленні народа сувязь з наднатуральнымі сіламі, былі пэўным паганскім сакральным сімвалам. Вадзяны ж млын не толькі меў у сваёй канструкцыі сакральны паганскі сімвал — жорны, але ж да таго быў звязаны з вадой, якая як прыродная стыхія выклікала ў людзей старажытнасці пэўны забабонны страх, бо пагражала рознымі непрыемнасцямі. Млын жа, работа якога была заснавана на сіле воднай стыхіі, па народных уяўленнях, не мог знаходзіцца пад уладай гэтых падводных духаў. Таму за млынам, а значыць і за чалавекам, які працуе на млыне — млынаром, замацоўваецца слава сувязі з наднатуральнай, "нячыстай" сілай. Потым, калі на Беларусі распаўсюджваюцца ветракі, гэтая слава пераходзіць і на іх, і яны таксама насяляюцца часам чарцямі.

"На Лаўрына спяшайся да млына", — гаварылі ў народзе. Лаўрын, які адзначаўся 28 ліпеня (10 жніўня па новым стылі), быў прысвятак, калі ўжо можна была малоць першае жыта на муку. Таму ў гэты дзень сяляне, якія да таго часу ўжо знялі ўраджай, спяшаліся да млына, каб хутчэй зрабіць памол. Дванаццатага ж кастрычніка (25-га па новым стылі), на дзень святога Марціна, адзначалася спецыяльнае свята млынароў. Адзначалі яго не толькі млынары, а ўсе сяляне, памол мукі на млыне для якіх меў вялікую ролю ў вядзенні гаспадаркі. Цікава, што выпіўку ў гэты дзень расстаўлялі на млынавым каменным коле, вакол якога і святкавалі. Успаміналі ў гэты дзень розныя гісторыі, звязаныя з млынам. Дзецям жа загадвалі загадкі пра млын і жорны. Напрыклад: "На паліцы дзве лісіцы, што дадуць, то з'ядуць".

Тое, што з млынам у народным уяўленні звязвалася дзейнасць нейкіх наднатуральных сіл, тлумачыцца і дастаткова складанай для ўспрымання простага чалавека млынавай канструкцыяй. І сапраўды, дзейнасць механізма млына, велічны рух яго колаў і лопасцяў стваралі ўражанне прысутнасці нейкай невядомай, магутнай сілы.

Найбольш пашыраны былі ў Беларусі млыны з так званымі верхня-



бойнымі вадзянымі вядучымі коламі, у якіх вада з плаціны падала з вялікай вышыні на верхнія лопасці кола. У тых жа мясцовасцях, дзе нельга было ўзняць узровень вады на вялікую вышыню, рабілі ніжнябойныя колы, калі вада паступала на ніжнія лопасці кола. Абодва гэтыя віды млыноў называліся запруднымі. Але былі і наплаўныя, якія ўяўлялі сабою нешта накшталт парома, што мацаваўся да берага з дапамогай канатаў. Упоперак парома ўстанаўлівалася доўгая вось, на канцах яе былі зроблены лопасці, якія прыводзіліся ў рух цячэннем ракі.

Складаную канструкцыю ўяўлялі ветраныя млыны. У Беларусі сустракаліся ветракі двух відаў: слупавыя (казловыя) і шатровыя (галандскія).

Слупавы млын на крыжавіне (казле) уяўляў сабой будову, якая абапіралася на адзін слуп, што стаяў па цэнтры будовы. Вакол гэтага стаўба млын паварочваўся з дапамогаю так званага вадзіла (доўгага бервяна, якое мацавалася ў ніжнюю частку пабудовы) і ручной лябёдкі-калаўрота. Ад крылаў-лопасцяў, якія прыводзіліся ў рух за кошт парываў ветру, кручэнне цераз вядучае драўлянае кола перадавалася на гарызантальнае кола (трыбу), што злучалася з жорнамі.

У шатровых млыноў паварочвалася толькі наверша, зробленае ў выглядзе рухомай башні. У гэтай частцы млына знаходзіўся гарызантальны вал, на які мацаваліся крылы. Паварочвалася гэтая частка будовы з дапамогай спецыяльных жардзін (па дзве з бакоў і адна ззаду), якія злучаліся ўнізе ў адзін вузел. Пацягнуўшы за ўсе сабраныя ў вузел жардзіны, можна было павярнуць млын крыламі да ветру.

У наш час як ветраныя, так і вадзяныя млыны практычна выйшлі з ужытку. Млыны, на якіх сёння мелюць муку, дзейнічаюць на электрычнай энергіі. Прафесія млынара цяпер страціла сваю загадкавасць, ніхто ўжо не падазрае ў работніках млына ведзьмакоў, ніхто не думае, што яны звязаны з наднатуральнымі сіламі. Але ўсё ж, згадзіцеся, чарадзейства засталося, чарадзейства вырабу найкаштоўнага харчовага прадукта, вырабу мукі, з якой пякуць хлеб для нашага стала. А хлеб, як вядома, усяму галава!

**Якаў ЛЕНСУ, кандыдат мастацтвазнаўства**

*На малюнках: ветраны млын шатровага тыпу; вадзяны млын з колам верхняга бою.*

КУЛЬТУРА
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА - АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Алег КАМІНСКІ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ, Арсен ВАНІЦКІ, Андрэй ВАШКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП Ніна ЗАГОРСКАЯ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА, Людміла КРУШЫНСКАЯ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Валерый СКВАРЦОЎ, Алег ТРУСАЎ, Віктар ТУРАЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ**

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Камп'ютэрная вёрстка — **Ірына ДЗІВІНА**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1,
Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Падпісана ў свет 18.00.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Фармат А3. Індэкс 63875
Агульны наклад 2680
Замова 1028
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.
**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**